
Прысяга ў Бельску →4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Выстаўка ў Музеі →12

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 42 (2944) Год LVII | Беласток, 14 кастрычніка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Опера двойчы

Дзевяць аўтафур з амаль трымастамі рэквізітамі і трымастамі касцюмамі для оперы „Страшны двор" Станіслава Манюшкі і шэсць для мюзікла „Корчак" Крыса Уільямса заехала пад новы будынак Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскага цэнтра мастацтва ў Беластоку. Выгружаныя з іх касцюмы, рэквізіты і іншыя элементы сцэнічнага афармлення запоўнілі дзве пастаноўкі, якія інаўгуравалі дзейнасць Падляшскай оперы і філармоніі. Абедзве былі падрыхтаваны з незвычайным размахам, як і належыць гэтаму асабліваму цэнтру культурнага жыцця на ўсход ад Берліна, які ўпісваецца ў шматкультурнасць рэгіёна і яго сталіцы. Інаўгурацыя дзейнасці оперы і філармоніі працягвалася тры дні (28-30 верасня). Білеты яшчэ да прэм'ер былі распрададзены аж да снежня.


„Корчак"

У час прэм'ерных прадстаўленняў (абодва спектаклі мелі па два) у фае шкляна-бетонна-каменнай оперы і філармоніі (16 тысяч квадратных метраў плошчы), побач узбіраючайся на сцены раслiннасці, наткнуцца можна было на мэблю з беластоцкіх антыкварыятаў і выставу касцюмаў і рэквізітаў з фільмавай „Трылогіі" Ежы Гофмана, пазычаную Гмінннай управай Мельніцкай гміны ды збораў з падляшскіх музеяў і калекцый, у тым ліку на ўнікальныя на Падляшшы два пахавальныя жывапісныя партрэты з Дыяцэзійнага музея ў Драгічыне. У будучыні мае тут быць ларок з кампакт-дыскамі, кветкавы магазін, а нават буфет. Арган пакуль схаваны ў цэмры канцэртнай залы. Аднак ужо ў канцы кастрычніка першы раз гучанне яму дасць маэстра гэтага інструмента прафесар Юзаф Сэрафін.

Першыя гледачы былі пад уражаннем глыбокай сцэны, але ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі опернымі сцэнамі — вузкай, што дае меншыя магчымасці пастаноўкі тут з размахам балетаў. Якраз яе глыбіня і вышыня дазволілі аднаму з найзнакамітых польскіх сцэнографаў — Паўлу Дабжыцкаму — укампанаваць у яе імпазантныя па велічыні сцэнаграфіі са смелым выкарыстаннем люка і яго паваротных магчымасцей. Так вось сцэнаграфічныя аб'екты і іхнія элементы, заадно як у „Страшным двары", так і ў „Корчаку", што і раз перамяшчаюцца справа налева, злева направа, уніз і ўверх, назад да гарызонту і да пераду сцэнічнага акна. У „Страшным двары" дварок з сапраўднай драўніны выканалі амаль у прапорцыях адзін да аднаго. У „Корчаку" сцэнічны афарміцель выкарыстаў больш сімвалічных элементаў, якія давалі выканаўцам свабоднае прасторавае поле для руху. У абодвух спектаклях гарызонт сцэны выпаўняюць гэтак званыя мультымедыйныя візуалізацыі Дар'і Вашак, хаця ў „Страшным двары" цяжка было адгадаць у адной са сцэн, ці на віртульным дрэве на фоне паявіліся героі першага сцэнічнага плана, ці быў гэта дэфект адлюстроўваючай апаратуры.

Адзін з вядучых твораў народжанага ў маёнтку Убель непадалёк Мінска Станіслава Манюшкі рэжысёр пастаноўкі Раберта Скальмоўскі перанёс з Калінова на Мазовіі першай паловы XVIII стагоддзя ў „нейкае" Калінова на Падляшшы. Першапачатковая патрыятычная афарбоўка твора ў беластоцкім мерапрыемстве ў шматлікіх сцэнах уступае рамантычным і камедыйным матывам. Дарэчы, інсцэнізацыйна-харэаграфічны і ўінтэрпрэтацыйна-акцёрскім пласце досціп часта бярэ тут верх, хаця першая сцэна здаецца гэтага не прадказваць. Рэжысёр вандруе крыху ў мінулае і запрашае гледачоў на XIX-вечны вакзал шматкультурнага і шматканфесійнага Беластока, на будынку якога відаць назву горада па-руску. Падарожныя, сярод якіх ёсць каталіцкі і праваслаўны святары, увaходзяць у цягнік, а развітваецца з імі жанчына ў чорным, спутаная кандаламі, быццам бы жонка студзеньскага паўстанца, пакаранага царскімі ўладамі ссылкай („Страшны двор" узнікаў у 1861-1865 гадах, якраз пасля падаўлення студзеньскага паўстання). На шматнацыянальнасць і шматканфесійнасць у першых сцэнах спасылаюцца постаці татараў на конях, жагнаючыеся ў праваслаўным рыце другага і трэцяпланавыя героі, між іншым Мацей. На жаль, у III і IV актах гэтага аповеду ў польскім шляхецкім дварку шматнацыянальны і шматканфесійны матывы дзесьці згубіўся. Аднак, несумненна, удалося Раберта Скальмоўскаму, як гэта сам сказаў у час папярэджваючай прэм'еру прэс-канферэнцыі, падмігнуць, што нацыянальную оперу ўбудоўвае ў „шматкультурны соўс".

Мабыць з-за самой канструкцыі Манюшкавай оперы, з двух першых актаў крыху падвейвала манатоннасцю, пасля першага захаплення сцэнаграфічна-касцюмным размахам, калі толькі шматкаляровы занавес узняўся ўверх. Затое III і IV акты імпазантныя як па вакальных магчымасцях салістаў і хору, так і інсцэніровачна-сцэнаграфічных задумах. „Арыю з курантам" у выкананні тэнара Рафала Бартмінскага (Стэфан) ці квартэт „Ані болю, ні раскошы" гледачы заслужана прынялі цёплымі апладысментамі. Дарэчы, несумненна прэм'ерную публіку асабліва захапіў якраз Рафал Бартмінскі. Для яго паклоннікаў інфармацыя: хоча ён быць пастаянным тэнарам падляшскай оперы. Незвычайна цёпла прынялі таксама Войцеха Герляха (бас) у ролі Збігнева. Вакальнае майстэрства паказалі меццa-сапрана, якія не шаржавалі вібрата: Агнешка Рэліс (Ядвіга), Ванда Баргялоўская-Баргейла (Старая жанчына) і на канец Анна Любанская (Чэсьнікова), якая ўвяла сваёй акцёрскай ігрой шмат радасці, асабліва ў сцэне, дзе выконвае сваю партыю ў стройнай, абшырнай сукні на столку для фехтавання. Другая, побач Ядвігі, паненка — Ганна (сапрана Агнешка Дандаеўская) здавалася, што час ад часу губляе мелодыю і несугучная з аркестрам (дырыжор Мечыслаў Дандаеўскі), што, дарэчы, было чутна час ад часу ў харавых партыях. Затое знакаміта яны былі сугучныя ў дуэце, па-майстэрску спалучаючы тэмбр сваіх галасоў. Некаторыя маглі быць расчараваныя найславутай арыяй „Страшнага двара" — Скалубы „Ten zegar stary" ў выкананні Пятра Навацкага, які не здолеў выкарыстаць глыбокага басу.

Незалежна ад дапрэм'ерных гарантый Раберта Скальмоўскага аб фантастычнай акустыцы ў новым аб'екце оперы і філармоніі, шмат гледачоў мела праблемы з тым, каб дачуць выразна тэксты. Словы, асабліва выспеўваныя хорам, губляліся дзесьці паміж радамі крэсел як на партэры, так у ложах і на балконе. Мабыць, гэта віна таксама лібрэта Яна Хэнцінскага, які блізка два стагоддзі таму ў вусны герояў оперы ўклаў лішак слоў.

Шмат адбывалася ў „Страшным двары" дзякуючы харэаграфіі Эміля Вэсалоўскага. Здзейсніліся словы Раберта Скальмоўскага наконт сцэнічнай ролі хору:

— Гэта не хор ваз, які толькі падымае рукі, — гарантаваў рэжысёр перад прэм'ерай.

Наколькі эфектнымі былі з харэаграфічнага пункту гледжання калектыўныя сцэны, асабліва забаўны мужчынскі хор у шматзначнай эратычна сімуляванай верхавой яздзе, дык непаразуменнем быў тут танец у сцэне з венікамі, бо цяжка апраўдаць дзвяок танцуючых канкан у васемнаццацівечным дварку. Захапляльны фінальны мазур у выкананні пяці пар з ансамбля песні і танца „Mazowsze" вярнуў аднак дух нацыянальнай оперы для падмацавання таксама сучасных сэрцаў.

працяг ☞8





# Прапаў горад

Прапаў горад. Усё пойдзе як на мазаных колах: спярша кожны дзень спевы, пасля ў клазетах замерзнуць трубы, пасля лопне паравое ацяпленне і так далей… Няхай прабачаць мне прыхільнікі расійскага пісьменніка Міхаіла Булгакава за адвольнае выкарыстанне ўрыўка несмяротнага твора класіка. Але тое, што адбываецца апошнім часам у Гродне, навейвае досыць сумныя асацыяцыі. Гарадзенскія ўлады, дакладней тыя, што рэальна кіруюць горадам (хто гэта: аблвыканкам, КДБ, пракуратура, яшчэ нейкая структура — ніхто са звычайных грамадзян не ведае) узяліся ваяваць з кніжкамі і гісторыкамі. Аўтараў папулярнага выдання „Гродназнаўства" сталі выклікаць у адпаведныя аддзелы спецслужбаў і падатковую інспекцыю, а выкладчыка Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Андрэя Чарнякевіча ўвогуле звольнілі з працы нібыта за спазненні на лекцыі і парушэнне працоўнай дысцыпліны. Па сутнасці яго звольнілі за прафесійную дзейнасць. Пры тым ніхто не сказаў, што ж у гэтай „крамольнай" кніжцы, якую раней амаль усе ацэньвалі як лепшае выданне года, і якая першапачаткова пісалася па заказе гарадскіх улад, выклікала такую негатыўную і нервовую рэакцыю... зноў невядома каго. Па горадзе ходзяць чуткі і версіі адна невераґодней другой. Ні то зайздроснікі данасоў „накляпалі" ў вышэйшыя інстанцыі, ні то ідэолагі выявілі пільнасць, хоць і запознена...

Прыгадалася тут мне даўняя сітуацыя яшчэ з савецкіх часоў, звязаная з працай і дзейнасцю іншага гісторыка — Барыса Клейна. Таго таксама пазбавілі выкладчыцкай працы ў вышэйшай навучальнай установе за дысідэнцтва і ён быў змушаны пэўны перыяд нават працаваць грузчыкам. Прайшоў час і ўсіх і ўсё расставіў па сваіх месцах. Імёны тых, хто пераследаваў і цкаваў навукоўца, даўно забытыя, нічым прыкметна добрым яны не засталіся ў гісторыі горада. А вось кніжкі Клейна гарадзенцы шануюць і чытаюць дагэтуль...

Неяк непрыкметна, паціху, спакваля Гродна пераўтварылася ў найбольш цемрашальскі і рэакцыйны горад краіны, стала гэткай беларускай Вандэяй. Спярша знішчылі ўсе незалежныя газеты, „зачысцілі" грамадскія арганізацыі і дэмакратычныя партыі, а цяпер дабраліся і да гісторыкаў. І няўжо гэтым „вяршыцелям" лёсаў чалавечых (як ім толькі здаецца!) няма чым заняцца ў горадзе над Нёманам?! Горадзе, дзе вельмі крытычная экалагічная сітуацыя. Горадзе, дзе найгорш з усіх абласных цэнтраў (пра Мінск ужо і не кажу) арганізаваны лакальны транспарт і міжгародняе спалучэнне. Горадзе, дзе рэальна не развіваецца турыстычная інфраструктура (пра гэта толькі безліч пустых размоў). Горадзе, дзе няма вольнасці прыватнага бізнесу і ўсё сканцэнтравана толькі ў лапах прагных чыноўнікаў. Горадзе, дзе самыя нясмачныя малочныя і мясныя мясцовыя прадукты (чамусьці тыя ж Ашмяны і Абухава могуць вырабіць нармальныя каўбасы ці Ваўкавыск смятанку) і нават няма свайго піва, бо бровар зачынены зусім і праўдападобна назаўсёды. „Гродзенскае" і „няякаснае" хутка ўвогуле стануць сінонімамі. Горадзе, які каторы год пераживае нейкую татальную рэканструкцыю дарог, якой канца нябачна, дзе нікуды ў час не даедзеш і не паспееш, дзе вечарамі амаль усюды цямрэча. Але нібыта ўсё цудоўна ў гэтым „залатым горадзе". І вось толькі гісторыкі са сваім бачаннем мінулага Гродна замінаюць зазнаць абласному цэнтру сапраўдны росквіт і дасягненне вяршыняў матэрыяльнага і сацыяльнага дабрабыту. Сорамна, невядомыя спадары-таварышы! Не за тое вы ўзяліся, відавочна не за тое. І не прынясе вам лаўраў і славы пераслед гісторыкаў — ні цяпер, ні тым больш у будучым. Яны, сапраўдныя гісторыкі, фіксуюць і пішуць пра тое, што было насамрэч у нашым мінулым. Могуць у нечым і памыляцца, але яны ў адрозненне ад цэнзараў і цэрбераў ідэалагічнай „правільнасці" па-сапраўднаму любяць свой горад і з'яўляюцца яго патрыётамі.

Прапаў горад над Нёманам...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Як вам гэта спадабаецца...

Увесь дзень я глядзеў І тэлеканал беларускага тэлебачання. Было гэта пару дзён да апошніх выбараў у Беларусі. Візуальная прапаганда, прызнаюся, мае незвычайную сілу ўдару. Я амаль не паверыў у тое, што сам бачыў — квітнеючую краіну, прыгожыя, шырокія вуліцы, дагледжаныя дамы, задаволеных жыццём грамадзян, з усмешкай на твары. Адным словам — шчаслівую Беларусь! Хапіла, аднак, хвіліну пакалупацца ў інтэрнэце, каб выявілася зусім іншая карціна. Якая з іх сапраўдная?

Найбольш усміхаліся ў беларускім тэлебачанні дыктары, няблага апранутыя, энтузіястычныя, пыхаючыя аптымізмам. З таго, што гаварылі, я зразумеў няшмат, ды сумняваюся ў тым, што яны самі ведалі, аб чым гавораць. Дарэчы, чыталі з лісткоў, дык і думаць пры гэтым не мусілі. Хтось за іх падумаў і напісаў. Не значыць гэта, аднак, што толькі ён павінен саромецца за тое, што хтосьці за яго прачытаў, прытым са шчырай усмешкай.

У адным выпадку з твараў маладых вядучых усмешка адлятала быццам жаваранак спалоханы валачыўшымся па лузе катом — калі абвяшчалі чарговае выступленне Гаспадара. Бо што як што, але пра Гаспадара няёмка гаварыць з усмешкай прыклеенай да пысы. Тым больш, што невядома, як ён тую ўсмешку будзе інтэрпрэтаваць. Ну і сам Гаспадар не мае часу на тое, каб строіць дурныя міны. Ён жа мае столькі да работы! Паводле прынцыпу, што двор без гаспадара плача, без адпачынку турбуецца — напамінае, павучае, паказвае, пытанні ставіць рубам. Усюды яго поўна і гэта вельмі добра, што так стараецца, бо дзе толькі паявіцца, ці ў краме, ці на будаўнічай пляцоўцы, там адразу крамныя паліцы гнуцца ад тавараў, а работа гарыць у руках будаўнікоў. Сапраўды, каб такіх гаспадароў Беларусь мела столькі, колькі налічвае грамадзян, тады адразу загаварылі б у Еўропе з дзіваваннем аб беларускім эканамічным цудзе. Ды што ж, Гаспадар толькі адзін. Хаця дваіцца і траіцца, ды ж за ўсіх не падумае, за кожнага не зробіць. Іншая справа, што калі хтосьці хоча за ўсіх думаць, дык павінен за ўсіх налегчы на работу. Ну і налягае. Значыць, Гаспадар. Свіння рыльцы тэлекамепр, якія ідуць за ім крок у крок, ледзь ужо дыхаюць ад стомы. А то накіруюцца за ім у найсучаснуую ў Еўропе ферму кароў, а то ў найдэмакратычны парламент, а то на апалітычнае поле бульбы. Усё пільна фіксуюць. І тое, як грыміць ён на негаспадарлівых старшынь калгасаў, а то як лае неэфектыўных міністраў, і як лупіць па збунтаваных апазіцыянерах. Дарэчы, паводле яго, у Беларусі апазіцыянераў няма, а калі хтосьці так называе гэтую прагную на юдавыя долары чэрнь, дык ён прайдзісвет і ідыёт. Выходзіць на тое, што я ідыёт.

І так мне сышоў адзін дзень. Ды не скажу, нарабіўся я так, быццам бы гэта я ганяўся за Гаспадаром па Беларусі. Як жа гэта так не відаць па ім стомы?! Я адпачываў некалькі дзён. Пачаліся выбары ў Беларусі. Я не мог не сачыць за імі па І тэлеканале беларускага тэлебачання. На ўсякі выпадак уключыў яшчэ інтэрнэт. І нічога мне не супадала. Дарэчы, для большасці з 330 членаў Агульнай асамблеі АБСЕ, якія назіралі за ходам выбараў, таксама нічога не супадала. Ані выбарчая яўка, якая паводле іх налічвала не больш чым 38 працэнтаў, калі паводле беларускага боку аж 74%, ані тое, што гаварыў Гаспадар, што „ў Беларусі створаны ўсе ўмовы для свабодных і дэмакратычных выбараў". Бо, паводле назіральнікаў, яны не былі створаны. Дык хто казаў праўду?

Я абдумаў справу і дайшоў да вывады, што праўда мае, як палка, два канцы. Каб іх пераўнаць паміж сабою, трэба тую палку паламаць. А хто ж бы меў гэта зрабіць?! Назіральнікі паназіралі і раз'ехаліся па сваіх хатах. Гэтак званая грамадская думка займаецца цяпер тым, чым кормяць яе СМІ — выбарамі ў ЗША. Беларусы, можа, прынялі масавы ўдзел у выбарах, а можа не. Гаспадар як гаспадарыў калісь у сваім калгасе, так будзе гаспадарыць у Беларусі. Інакш пакажа гэта інтэрнэт, інакш беларускае тэлебачанне. Кожнаму тое, што яму падабаецца. Тут прыгадаю, што словам *placebo*, родам з лацінскага „спадабаюся", у XIII ст. называлі падманшчыкаў і лісліўцаў. Сёння значыць яно лякарства, якое мае падмануць хворага. Так вось, спасылаючыся на лацінскі корань — як вам падабаецца, так вам і будзе.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Турбота за імідж



І зноў у чарговы раз дайшло да расісцкай атакі пры ўдзеле заўзятараў беластоцкай „Ягелоніі". У папярэдні раз, два гады таму ў Забжы, быў зняважаны футбаліст „Ягелоніі" кеніец Франк Эсомба. У гэты раз у апошнюю суботу верасня, пасля матча гэтай футбольнай каманды ў Шчэціне яе чарнаскуры гулец нігерыец з італьянскім пашпартам Уго Ука падышоў да трыбуны заўзятараў „Ягелоніі" і там яго абазвалі і аплявалі. Не трэба было доўга чакаць рэакцыі прэзідэнта горада, ваяводы і падляшскага маршалка, на канец улад клуба і іншых футбалістаў „Ягелоніі". Прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі і маршалак Яраслаў Дважанскі выдалі пісьмовыя заявы. Маршалак пачаў заяву: „З глыбокім сумам і абурэннем прымаю чарговы расісцкі выбрык. (...) Няма ніякага апраўдання для гэтай і падобных атак агрэсіі супраць іншага чалавека". У завяршэнні заклікаў, каб інцыдэнт быў апошнім і дадаў: „Нельга дазваляць на такія акты хамства і агрэсіі ў сваім атачэнні, мусім супольна супрацьстаўляцца бяздумным фашыстам і хуліганам". Найдаўжэйшая, аднак, частка ягонай заявы звязана была з фактам, што ў той самы дзень, што шчэцінскі акт, дайшло ў Беластоку да адкрыцця новай сядзібы Падляшскай оперы і і філармоніі, якой дзейнасць — як піша Яраслаў Дважанскі — павінна ў трывалы спосаб змяніць імідж Беластока і ваяводства. У тым кантэксце адзначыў: „Маем шанцы, каб вялікія ягелонскія традыцыі — талерантнасці і супрацоўніцтва людзей незалежна ад нацыянальнасці, рэлігіі, перакананняў, колеру скуры і паходжання — маглі быць творча развіванымі сучасным і наступнымі пакаленнямі. Опера з'яўляецца адначасова Еўрапейскім цэнтрам мастацтва. Я хацеў бы, каб Беласток разам з рэгіёнам сталі еўрапейскім горадам і еўрапейскім ваяводствам". Задумаўся я пасля прачытання заявы маршалка, што мае падляшская опера да паводзін некаторых „паклоннікаў" беластоцкага футбольнага клуба? Спалучэнне двух здарэнняў: інцыдэнту ў Шчэціне і адкрыцця будынка оперы здаецца мне быць пераборшчаннем, прымаючы пад увагу асабліва тое, што цяжка мне ўявіць, што кіболі-расісты пойдуць, напрыклад, на ўспомнены ў заяве спектакль „Корчак", ну хіба што толькі для таго, каб прадэманстраваць свой антысемітызм. Неяк гэтая заява папахвае мне піяраўска-маркетынгавай гульнёй пры нагодзе моцных слоў, кляймуючых расізм і хуліганства.

У сваю чаргу Тадэвуш Трускаляскі, выказваючы глыбокае абурэнне інцыдэнтам, заявіў: „Агрэсія з боку асоб, называючых сябе заўзятарамі беластоцкай каманды, гэта не толькі скандальны акт нянавісці і нетальерантнасці. Гэта таксама дзеянне на шкоду іміджу нашага горада і яго жыхароў. Горада, якога тоеснасць абапіраецца на шматвяковае, прыязнае суіснаванне рэлігій і культур ды адкрытасці на тое што іншае". Вось так аказваецца, для спадара прэзідэнта адным з найважнейшых праблем у расісцкіх паводзінах некаторых беластачан з'яўляецца захаванне іміджу горада, паводле мышлення: „Не забівай, сынок, матулі, бо што суседзі скажуць на гэта!".

Цікава, што спадар прэзідэнт не адмежаваўся ад Згуртавання „Дзеці Беластока", з якога выводзяцца „кіболі" (таксама тыя ад расісцкіх і ксенафобных паводзін). Супрацоўніцтва са згуртаваннем пасля шчэцінскіх здарэнняў парваў клуб „Ягелонія". Спадар прэзідэнт маўчыць у гэтай справе, раней падтрымліваючы згуртаванне немалымі сумамі.

І яшчэ адно. На фейсбуку Уладзімір Пятрочук з Гайнаўкі ў апошнія дні напісаў: „Чарнаскуры гулец „Пушчы" Гайнаўка", родам з Нігерыі Джэфры Наўкеі ў час матча IV лігі ў Саколцы быў закіданы бананамі". Я не чуў, каб хтосьці з падляшскіх улад выпусціў заяву ў гэтай справе. Можа таму, што да здарэння дайшло ў чацвёртай лізе, дзесьці на падляшскіх іміджавых задворках, здалёк ад падляшскай оперы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Прыходзіцца ладзіць цяперашнія пешыя вандроўкі па нашым старонні з улікам даступных насельніцтву паслуг з боку публічнай камунікацыі. Вось думаў я дабрацца ў Ялоўку, у дзень тамашняга прыхадскога свята Уздзвіжання Крыжа Гасподняга, з раніцы, каб пабачыць як у цяперашніх дэмаграфічных абставінах тое свята выглядае. Можна было б так зрабіць, але тады трэба было б абмежаваць падарожжа толькі да самой Ялоўкі, бо толькі адтуль магчыма было б сэнсоўна вярнуцца ў той сам дзень у Беласток. А мне ж захацелася прынагодна пабачыць і крыху навакольных Ялоўцы мясцовасцей, таму задумаў я пачаць падарожжа з іншай, не надта ад Ялоўкі аддаленай мясцовасці, а пра размах ялоўскага святкавання памеркаваць неяк ускосна.



Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Каля Ялоўкі

Плот у Кітурыках

З аўтобуса, што ў восем раніцы адпраўляецца з Беластока ў Баброўнікі, злез я ў Зубках; у далейшым напрамку шафёр павёз толькі адну пасажырку. У той частцы Зубкоў, куды заязджае пэкаэсаўскі аўтобус, новы асфальтавы насціл на вуліцы. За вёскай самотны цэментны крыж з надпісам „За здоровье деревни Зубки". Але навокал пуста, толькі каля чыгуначнага пераезда жанчына з пуставатым на від кошыкам падалася з лесу дахаты. Чыгуначны пуць у напрамку загранічнага Ваўкавыска зарастае ўсім тым, што прырода на ім пасеяла. Жвіроўка з Зубкоў у напрамку Свіслачан і Мастаўлян выглядае як валкаўніца, а язда па ёй можа нагадваць пасажыру чаргу са станковага кулямёта; даўно не бачыла яна грэйдэра.

На недалёкай сенажаці двух касцоў змагаюцца з травой з дапамогай бензакасілак. З такой пожні сена збіраць цяжка, ды хіба не на тое касцы тую траву косяць; косяць каб сенажаць была скошана, каб была падстава для атрымання датацый плачаных за тое, што ўгодзе абрабляецца. Бо ж такі час, такая мода, калі грашавіты народ кінуўся менавіта на гектары, на своеасаблівую нерухомасць...

Пры адгалінаванні жвіроўкі ў напрамку Зуброў новенькі крыжык на абочыне, яшчэ свежы пясочак вакол яго; знак трагедыі, якая там нядаўна адбылася. Пазней даведаюся, што ў ліпені, два месяцы раней, загінулі там дзве маладыя асобы, не справіўшыся з разагнаным самаходам.

І ў Зубрах паказваецца новы асфальт, што пракладзены ў бок шэрых кааператыўных блокаў; пакладзены ён мінулай восенню. Але я мінаю асфальт і падаюся ў вёску па грунтовай дарожцы, па якой яшчэ ездзяць машыны, і выходжу на вясковы брук, па якім і машыны крыху ездзяць, і ўсялякія траўкі змагаюцца за сваё права на жыццё. На вуліцы пуста, не відаць жывой душы, хаця надвор'е сонечнае. Толькі ў канцы вясковай вуліцы тры жанчыны выйшлі паглядзець, як электраманцёры нешта робяць пры трансфарматары. Бо там, як мне здаецца, іншых неардынарных падзей няма. Нават аўтакрамы ў Зубры не заязджаюць, бо ў вёсцы дзве крамы мясцовыя; праўда, адна з іх неўзабаве прыпыніць дзейнасць, бо пакупнікоў няма. Колькі душ астаецца ў вёсцы на зіму, дакладна не ўдаецца мне даведацца, але адказ, што асталіся там „адны бабы", падказвае на аблічча тамашняй дэмаграфіі. Пытаю пра грэчку, што расце за вёскай — пасеяў яе малады чалавек, што жыве ў Беластоку, а малады сад, што пры дарозе з Зубкоў, пасадзіў нейкі „бізнесмен", але хто ён такі, жанчыны не ведаюць. І пра школьны будынак пытаю і ў адказ чую, што там цяпер можна пачаставацца ў любы час — у былым школьным будынку цяпер агратурыстычная кватэра. А яшчэ шэсцьдзесят гадоў таму ў зуброўскай школе вучылася семдзесят дзетак, якія, як падавала тадышняя „Gazeta Białostocka", вельмі хацелі стаць гарцэрамі, толькі не было каму задаволіць гэтыя парывы, хаця ў вёсцы „jest dość silna organizacja partyjna i koło ZMP"; як жа ўсё памянялася з таго часу...

З Зуброў кіруюся ў напрамку згаданай ужо Ялоўкі цераз раскіданую па хутарах вёску Зялёная і акрайкі мастаўлянскіх хутароў. Жвіроўка пралягае найчасцей лесам, які перамяжоўваецца з палямі; лес той пасляваеннай метрыкі. Некаторыя ўчасткі поля дбайна абрабляюцца, некаторыя абсаджваюцца чарговым лесам. І так даходжу да Кітурыкаў; за той час, у паўтары гадзіны, абагналі мяне ўсяго дзве ці тры машыны...

Сама вёска Кітурыкі з'яўляецца быццам мініяцюрай нашай крыху ранейшай Усходняй сцяны. У вёсцы абжыты тры хаты, толькі каля адной з іх відаць яшчэ парывы змагання з новай сельскагаспадарчай рэчаіснасцю; на панадворку стаяць земляробныя машыны, але яны з ранейшай эпохі — значыць, абрабляннe зямлі тут ідзе на спад; можа тут мяняецца яго напрамак, бо на недалёкай пашы ходзіць тройка коней. Да іншага панадворка пажылая жанчына пацягнула ў радзюжцы на плечах ахапку сена; мабыць, трымае яна кароўку, бо ж недалёка стаяла тая жывінка ў засені альшын. Ды і стадола ў гэтай гаспадарцы паказвае, што коціцца яна сілай інерцыі, бо ж на ёй ужо адны латы з ахапкамі саламяных кулёў. Два панадворкі цалкам зараслі ўсялякім самасеем, а хаты ў гэтых гушчарах у росквіце развалу. Адзіны паказальнік гэтай мясцовасці на выхадзе з яе ў напрамку Ганчароў, з перакрэсленай назвай мясцовасці, выглядае быццам яе наканаванне.

Але назва гэтай вёскі красуецца ў іншым месцы — тут калісь пабываў Міхал Федароўскі, славуты збіральнік беларускага фальклору; Кітурыкі ён назваў шляхецкай вёскай. Здаецца мне, што варта прывесці крыху запісаў выдатнага фалькларыста з даўняй даўніны, якія ідуць крыху ўразрэз са складўшыся цягам нядаўна мінулай эпохі сацыяльнай панарамай Беларусі, дзе паны прадстаўляліся толькі ў адмоўным ракурсе. Першая легенда пра легендарнага князя Караля Радзівіла „Пане Каханку", як той мужыка розуму вучыў; у беларускіх народных казках акурат бывала наадварот...

Вёз чалавек сена і воз яму вывернуўся. Радзівіл загадаў сваім слугам падняць воз ды кажа мужыку: „А што, чалавечку, добра ў кампаніі кашу есць?" — „Ай, паночку, я кашу то і сам з'еў бы без кампаніі". — „Ну, калі кашу ты сам з'еў бы, то і воз сам паднімай. Хлопцы, выварочвайце зноў!" Тыя, як бач, і вывернулі, Радзівіл паехаў сабе, а ты спраўляйся як хочаш.

Іншая легенда таксама са сферы лепшага саслоўя. Адзін пан заўсёды еў абед з будзь-якім жабраком. Аднойчы трапілася, што не было ніводнага, дык ён паслаў фурмана, каб яму абавязкова жабрака прывёз. Той паехаў, спаткаў старога дзеда, забраў яго на каляску і прывёз да пана. Пан рады, зараз яго за стол пасадзіў і давай есці. Калі ўжо з'елі, тады дзед сказаў: „Я прышлю коней па пана". „Добра-добра, мой дзедка, прышлі то паеду". І пайшоў сабе той дзед. Пасля нейкага часу заязджае фурман каляскай пад панаў ганак: коні блішчаць, каляска зіхаціць. Пан зараз сеў і паехалі. Едуць яны, едуць, ды ўсё пад гару, дык той пан пытае: „Куды мы едзем?" — „Да неба, паночку" (а гэта быў анёл). Прыехалі яны на неба, там Бог пасадзіў пана на такім крэсле, з якога відаць усё, што на зямлі робіцца, і кажа: „Ну, глядзі, толькі не крычы". Глядзіць той пан, а на зямлі два браты жыта жнуць, адзін багаты, другі бедны. У беднага жыта слабое, а ў багатага добрае. Той бедны нажаў за горку, а багаты ўхапіў яго снапка ды да сваіх кінуў. Тады той пан не вытрываў і крыкнуў: „Што ты гэта, гіцлю, робіш, брата беднага крыўдзіш?". Так Бог яго за гэта скінуў з неба...

Пад Кітурыкі падыходзіць іншая вёска, Ганчары. Амаль трыццаць гадоў таму Мікола Гайдук так быў пісаў пра гэтую вёску: „Невядома, у якім калене тут зваліся ганчары, бо нават найстарэйшыя ў гэтай мясціне не памятаюць, каб хто калі наткнуўся на якое-небудзь чарэп'е. Гліна, праўда, тут выступае; па колішняй традыцыі яе бяруць на гаспадарчыя патрэбы ва ўрочышчы Цагельня. Але ці ад тутэйшых ганчароў займела назву мясцовасць, меркаваць цяжка. Магла ж яна таксама павесціся ад перасяленых сюды жыхароў з вёскі Ганчары, што знаходзіцца непадалёку (у Свіслацкім раёне Беларусі) або з іншай мясцовасці з ганчарскімі традыцыямі. Ганчары, мабыць, былі ўжо ў ліку дробных паселішчаў, рассыпаных вакол Ялоўкі, калі 21 снежня 1545 года Жыгімонт Аўгуст (тады яшчэ толькі вялікі князь літоўскі) па просьбе сваёй маці, каралевы Боны, прызнаваў Ялоўцы статус горада з магдэбургскімі правамі. Зрэшты, толькі пры такім рамесніцка-гандлёвым асяродку, у які з бегам часу разраслася Ялоўка, і мела шанцы развіцця ганчарнае рамяство. Калі Ганчары перайшлі ў прыватнае ўладанне і сталі паншчыннай вёскай, прыналежнай да двара Бліскаўшчына (у адным-двух кіламетрах на ўсход, сёння сядзіба сельскагаспадарчага кааператыва Кандраткі), цяжка сказаць. З найстарэйшага з вядомых дагэтуль дакументаў, які адносіцца да 1784 г., вынікае, што яны былі прыгоннай вёскай гэтага двара. Як усюды, так і тут, паншчына пакінула пасля сябе благую славу. Калі прыгонных дзяўчат ці маладзіц пасылалі ў панскі сад рваць агрэст, то потым заглядалі кожнай у рот, ці часам не сядзяць паміж зубамі агрэставыя зярняткі, і за з'едзеную ягаду жорстка каралі. Калі ў 1861-1862 гадах Ганчары з прыгону выходзілі „на волю", кавалачак сенажаці, што прасціралася каля іхніх агародаў, землямер, па загадзе пана, адрэзаў суседняй вёсцы Дубляны. Даведаўшыся пра гэта, ганчарцы, ад малога да старога, узброіліся ў вілы, косы, цапы ды каменне і рушылі адбіваць свой сенакос. Змагаліся з такой заядласцю, што адступіліся не толькі жандары ды пан, але нават дублянцы зракліся гэтага кавалка сенакосу. Спакон веку Ганчары жылі бедна. Зямлі было мала, вёска „сядзела" на 7 участках па 16 га кожны, а ў міжваенны час было ў ёй 37 гаспадарак. Увесь час хадзілі ў наймы або ў Бліскаўшчыну, або да „панкоў" у суседнія Кітурыкі (аселіца патомных баяраў Вялікага Княства Літоўскага), працавалі па навакольных лясах, нават у далёкай Белавежскай пушчы".

*(працяг будзе)*



## Вечарына пенсіянераў



16 верасня г.г. было шумна ў нараўчанскай святліцы. Іграла музыка і плылі песні. А гадзіне 16 тут сабраліся пенсіянеры, згуртаваныя ў Нараўчанскім аддзяленні Польскага саюза пенсіянераў, якое ўзначальвае Ядвіга Карпюк. На вечарыну запрасілі Пятра Скепку і Анну Карэтка, якія весялілі публіку спевам і ігрой на акардэоне. А сабралася 40 чалавек з Нараўкі, Плянты, Альхоўкі, Ляўкова, Міхнаўкі, Гушчэвіны, Масева, Міклашэва, Семяноўкі, Свінароя і Стачка. Гэта важна, каб не сумаваць у адзіноце і каб яшчэ марыць ды не забываць пра шчаслівыя хвіліны жыцця.

Панавала цёплая і сардэчная атмасфера. На самым пачатку адбылася аўтарская сустрэча з Тадэвушам Кунцэвічам з Лешукоў. У жніўні г.г. выйшаў з друку зборнічак яго вершаў на беларускай мове „Падляшша — мая старонка". Паэт чытаў свае творы і затым адбылася дыскусія. Вершы Т. Кунцэвіча спадабаліся прысутным.

Арганізатары частавалі м.інш. гарачымі катлетамі з бульбай і капустай ды кавай і гарбатай. У перапынках паміж танцамі спадарыня Ядвіга праводзіла вікарыны і шматлікія конкурсы. Пенсіянеры папрасілі, каб прысутныя на мерапрыемстве некаторыя члены калектыву „Нараўчанкі" заспявалі. Быў „шакаладны вальс", падчас якога мужчыны абдароўваюць сваю партнёрку пліткай шакаладу. Культурна-забаўляльную вечарыну фатаграфаваў Янка Целушэцкі.

Варта дадаць, што ў кастрычніку г.г. з нагоды Дня сеніёра адбудзецца другое такога роду мерапрыемства ў адрамантаванай святліцы ў Альхоўцы.

## Нараўчанская дэмаграфія

Нараўчанская гміна налічвае 3905 жыхароў, якія пражываюць у 42 мясцовасцях. Найбольшыя вёскі гэта Нараўка (у ёй пражывае 919 чалавек), Семяноўка (416), Старое Ляўкова (351), Новае Ляўкова (214), Скупава (196), Міклашэва (172), Плянта (154), Лешукі (130), Тарнопаль (124) і Альхоўка (112). Да найменшых пасяленняў належаць Гнілец (у ім 2 жыхары), Лазовае (4), Баравыя і Ланчына (па 6), Замоша (8), Церамкі (11), Забрады (12) ды Парослае і Навіны (па 13).

У параўнанні да мінулага года ў некаторых вёсках лік жыхароў павялічыўся, напрыклад, у Свінароях на 4, у Гнільцы і Семяноўцы — па 2 ды ў Лешуках, Парослым, Старым Масеве і ў Заблотчыне — па 1.

Лік жыхароў паменшаў у 12 вёсках, найбольш у Новым Ляўкове — на 8, у Ахрымах, Старым Ляўкове і Скупаве — па 7, у Альхоўцы — на 4 і ў Навінах — на 3. У дванаццаці мясцовасцях лік не змяніўся і ўстойлівы ад пару гадоў.

Сёлета ў Нараўчанскай гміне ў ЗАГСе зарэгістравалі 20 шлюбаў, 25 нованароджаных дзяцей і 42 пахаванні. Адзінаццаць пар ладзіла „залатое вяселле" (святкавала 50-годдзе свайго шлюбнага сужыцця): дзве ў Нараўцы ды па адной з Бабяй Гары, Гарадзіска, Грушак, Старога Ляўкова, Новага Масева, Плянты, Скупава, Заблотчыны і з Забрадоў.

Зараз у гміне няма ні аднаго стогадовага жыхара. **(яц)**

# Прысяга бельскіх белгімназістаў

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

— У нас колькасць вучняў не паменшала і зараз у школе вучацца 652 асобы, — заявіла Яўгенія Васілюк, новая дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім (папулярна званым «тройкай»), якая свае абавязкі выконвае з 1 верасня.




У бельскіх школах у новым навучальным годзе колькасць вучняў паменшала, а ў трох першых класах белгімназіі распачалі адукацыю ажно 78 вучняў, у тым ліку 71 асоба са сваёй падставовай школы і 7 выпускнікоў іншых бельскіх школ, якіх прыцягнуў сюды перш за ўсё самы высокі ўзровень навучання ў Бельску, аб чым сведчаць хаця б мінулагоднія лаўрэаты прадметных конкурсаў і вынікі праверкі ўмеласцей вучняў у час завяршальных экзаменаў. У мінулым школьным годзе сярод вучняў падставовых школ лаўрэаты прадметных конкурсаў з бельскай «тройкі» апынуліся на другім месцы ў Падляшскім ваяводстве, а бельскія белгімназісты занялі чацвёртае месца ў нашым ваяводстве з ліку школ, якіх вучні прымалі ўдзел у прадметных конкурсах, аб чым дырэктар Васілюк расказала ў час школьнай прысягі першакласнікаў белгімназіі, якая адбылася 28 верасня ў вялікай спартыўнай зале. Мерапрыемства распачалося з выслухання на зважай дзяржаўнага гімна Польшчы і гімна школы «Люблю наш край, старонку гэту...». Бельская «тройка» і белліцэй гэта, хіба, адзіныя нашыя школы, якія маюць беларускія школьныя гімны (тая самая песня), выконваныя перад школьнымі мерапрыемствамі. У спартыўнай зале сабраліся вучні першых класаў, іх бацькі і настаўнікі, а на галерэі чакалі другакласнікі, якія пасля *атрасалі* сваіх малодшых сяброў. Сустрэча закончылася дыскатэкай.

— Мы, настаўнікі, чакаем вашай салідпай працы на ўроках і па-за імі, бо ў нашай школе многа пазаўрочных заняткаў. Разлічваем на вашую салідную вучобу, бо ад завяршальных экзаменаў у трэціх класах будзе залежаць вашая будучыня, — гаварыла да вучняў першых класаў дырэктар Яўгенія Васілюк.

Абяцанне сумленна вучыцца і працаваць у карысць школы далі ўсе першакласнікі. Перад бел-чырвоным сцягам з выцягнутымі ўперад рукамі прысягалі па двух вучняў з кожнага класа. Мінулагоднія выпускнікі белгімназіі ў асноўным паступілі вучыцца ў мясцовы белліцэй, але былі вучні, што сталі вучыцца ў самых лепшых ліцэях Беластока і іншых гарадоў або працягваюць адукацыю ў іншых бельскіх звышгімназічных школах.

Перад сабранымі побач сцэнічнага афармлення з нашымі беларускімі матывамі, даўнімі кашулямі і ручнікамі, стройна, з усмешкамі на тварах і з прыгожымі беларускімі песнямі выступілі два школьныя калектывы — «Капрыс», які нядаўна пабываў у Італіі і там заняў першае месца на музычным фестывалі (апякуецца ім Анна Вярцінская) і «Вянок», з якім займаецца Іаанна Хількевіч. Відаць было, што беларускія песні, у добрым выкананні, вельмі спадабаліся бацькам.

— Я хацела б, каб усе вучні навучыліся спяваць школьны гімн «Люблю наш край, старонку гэту...». Плануем надалей ладзіць беларускія лінейкі з нагоды святкавання Дня Незалежнасці Беларусі — 25 Сакавіка. Вясной наступнага года хочам пачаць арганізаваць «Беларускі дзень школы», прысвечаны перш за ўсё патрону нашай школы Яраславу Кастыцэвічу. Тады хочам ладзіць сустрэчу, гульні і ўсё, што прыдумаем, хочам, каб адбывалася на беларускай мове, — у пазнейшай размове з «Нівай» заявіла дырэктар Яўгенія Васілюк. — Я, як новы дырэктар, не хачу ўводзіць рэвалюцыйных змен у школе і маю намер падтрымліваць тыя ўсе формы работы, выпрацаваныя пад наглядам былога дырэктара Васіля Ляшчынскага, якія давалі добры адукацыйны рэзультат. Будзем намагацца трымаць самы высокі ўзровень навучання ў школе і таксама старацца выпрацоўваць новыя формы працы, згодна з новымі адукацыйнымі выклікамі, бо ў школах цэлы час нешта мяняецца ў адукацыйным плане.

Прысяга закончылася супольнымі здымкамі вучняў, выхавацеляў, дырэктараў і настаўніка Божага закону протаіерэя Андрэя Нелiпiнскага, вікарнага святара Уваскрэсенскай царквы ў Бельску-Падляшскім. Выступаючы раней перад сабранымі святар звярнуў ён увагу на патрэбу супольнай малітвы ў школе, духовага і інтэлектуальнага развіцця і пажадаў Божага блаславенства моладзі і ўдалай адукацыі.

— Вучоба гэта важная справа. Чаму вы навучыцеся, таго вам ніхто ніколі не забярэ, — заявіў старшыня Рады бацькоў.

Старшыня Вучнёўскага самаўрада ахарактарызавала школьнае жыццё як час вучобы і радаснага жыцця, сустрэч і гульняў з сябрамі. Атрасанне першакласнікаў адбылося на калідоры і ў школьных кабінетах, дзе другакласнікі рабілі малодшым сябрам розныя фокусы, між іншым, малявалі фарбамі па руках.

— Запрасілі мы на нашае ўрачыстае мерапрыемства консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку, але не даехаў, — патлумачыла выхавацелька аднаго з першых класаў, настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч, якая дадала, што ў хуткім часе адбудзецца прысяга вучняў першых класаў падставовай школы.



Тэкст і фота Олі Наташы СКУПІНСКАЙ

# „Пісьменнік і грэшніца” — з болю родзячай маці

**Я хацела б, каб такіх людзей было як мага больш. Адкрытых, прыязных, спакойных. З запалам і гісторыяй. Такіх, што, нягледзячы на перашкоды, умеюць паднясціся, атрэсці нагавіцы і рухацца далей. Такіх, праўдзівых. Быць маладым артыстам у сённяшняй Беларусі — сапраўды нялёгкі шлях, хоць часта вобразы, прадстаўленыя заходнімі СМІ, занадта перабольшаныя. Неабходна змагацца за адраджэнне культуры, мовы, патрыятызму, якія кожны дзень траляюць пад уплыў Польшчы і Расеі. Гісторыя Беларусі — гэта аповед пра людзей, якім не дазвалялі быць сабой, пра няспынную барацьбу з акупантам і вонкавым ціскам. Гэта месца нараджэння Міцкевіча, Ажэшкі, Купалы. Месца нараджэння прыгожай, самабытнай мовы і культуры, якая ў рэшце рэшт кажа „хопіць” і памалу выходзіць з шафы. Мая першая сустрэча з Сяргеем і Дзімам выглядала як сустрэча з даўнімі знаёмымі. Беларуская моладзь не адрозніваецца ад той з іншых еўрапейскіх краін. Яна таксама хоча працаваць, бачыць свет. Таксама ведае замежныя мовы, тварыць, носіць конверсы і п’е алкаголь. Сяргей Батура і Дзмітры Лютомскі — гэта не толькі падапечныя Кшыштафа Занусі, але і таксама свежыя гарадзенскія фільммейкеры, для якіх творчасць стаіць на першым месцы.**



На здымку: Сяргей Батура, Кшыштаф Занусі і Дзмітры Лютомскі

Упершыню Сяргей і Дзіма прафесійна прыехалі ў Польшчу ў жніўні мінулага года разам з беларускімі журналістамі, запрошанымі Кшыштафам Занусі на лекцыю. Менавіта тады ім выпала магчымасць пазнаёміцца са славутым рэжысёрам і паказаць яму свае працы. Іх творчасць так спадабалася Занусі, што ён запрапанаваў супрацоўніцтва. Цяпер хлопцы жартуюць, што ён іх „выдрэсіраваў”. Падчас прабывання ў яго ў гэтым годзе яны навучыліся пунктуальнасці, сталі больш арганізаванымі.

*— Ведаеш, гэта не так, што мы ў яго знаходзімся і ён прысвячае нам кожную хвіліну. Мы хацелі б, канешне, атрымаць ад побыту як найбольш, але звычайна атрымліваецца правесці з ім гадзіну ці дзве ў дзень. Тады мы маем магчымасць распытаць яго пра прафесію, ён дае нам шмат прыдатных парадаў. Як на свой узрост, ён страшна актыўны, дынамічны. Спадар Занусі кажа, што мы ўсе беспрацоўныя. Нікому не патрэбны рэжысёры, прадзюсеры, журналісты. Патрабуюцца настаўнікі, лекары. Не артысты.*

*— Мы распачалі нашую прыгоду з мастацтвам дастаткова рана. Нас заўсёды цікавіла гісторыя, мы былі ўцягнутыя ў тэатр, прыдумвалі свае камедыйнае шоў. Свой першы фільм мы зрабілі, маючы 15 год. Ён называўся „Спадчына”. Фільм распавядае пра Гародню, архітэктуру горада. Мы любім тое, што мы робім. Гэта небяспечны наркотык, які ўцягвае больш за гераін. Толькі няма такога лекара, які б вылечваў ад смагі тварыць. Асабіста я мяркую, што добры сцэнарый — гэта як дзіця для маці. Спачатку ходзіш і думаеш, што з гэтага будзе, што выклюецца. Паўстае эмбрыён, які павялічваецца і павялічваецца, абрастае ўсё большымі падрабязнасцямі, і, урэшце, у болю родзячай маці пішацца сцэнарый — два-тры дні і гатовы.*

*— Бачыш, мы з Дзімам не проста прыяцелі па працы. Мы сябруем з пятага класа. Канешне, паміж намі здараюцца канфлікты, як і ў кожнага, але насамрэч мы залежым адзін ад аднаго. Цяпер мы плануем поўнаметражны гістарычны фільм пра Беларусь у 1939 годзе. Дзеля гэтага мы хочам супрацоўнічаць з Польшчай, бо ў гэтым фільме пра Беларусь нам без палякаў не абысціся.*

Сяргей і Дзіма, як і многія гарадзенцы, маюць польскае паходжанне. Абодва яны каталікі, у іх хатах захоўваюцца польскія традыцыі. Выхоўваліся яны на фільмах „Stawka większa niż życie” (бел. „Стаўка большая за жыццё”), „Czterej pancerni i pies” (бел. „Чатыры танкісты і сабака”). Аднак у іх дамах, як гэта заведзена ў Беларусі, размаўляюць па-расейску. Польскую мову яны вынеслі перш за ўсё з урокаў рэлігіі. Сяргей, які здаваў іспыт на „Карту паляка”, на памяць ведае польскі гімн і перакананы, што ўсё ведае пра гісторыю Польшчы. У паўсядзённым жыцці хлопцы вядуць нармалёвае жыццё беларускіх дваццацігодкаў. Сяргей вывучае гісторыю ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, а Дзіма — нямецкую мову ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы.

*— У Беларусі няма добрых мастацкіх школ і таму людзям, якія займаюцца, так як мы, фільмам, альбо музыкай, літаратурай, найлепш ісці на які-небудзь гуманітарны факультэт. Артыст павінен быць усебакова развітым і валодаць ведамі з розных сфер.*

Акрамя кіно хлопцы займаюцца таксама рознымі не менш цікавымі рэчамі. Дзіма — МС у гарадзенскім клубе „Альфа Цэнтаўра”. Займаецца рэкламай і арганізацыяй канцэртаў. Не баіцца тэлефанаваць да людзей і прасіць у іх грошай. Гэтага патрабуе яго праца. Ці гэта прадзюсіраванне фільма, ці арганізацыя канцэрта, ён адказвае за кожную дробязь.

*— У сённяшнім свеце патрэбныя спонсары. Мы самі не здолелі б нічога зрабіць. Я вымушаны сам ісці да людзей, пытацца, дамаўляцца. Людзі да цябе самі ніколі не прыйдуць.*

Сяргей падзарабляе ў якасці журналіста. Ён здымае дакументальныя фільмы для ARTE і MDR. Гэта адны з найбольшых нямецкіх тэлеканалаў. Дзякуючы гэтаму, ён можа спалучаць запал з прафесіяй. Аднойчы нават, у парыве натхнення, ён накруціў матэрыял пра сябе і сябра, як пра беларускіх творцаў.

*— Вядома, бацькі ганарацца намі. Сяргей жыве цяпер у Менску, але я да гэтай пары жыву з бацькамі. Хоць і так мама сумуе: мяне амаль што не бывае дома.*

*— Мы не хочам быць залежнымі ад дзяржавы. Мы займаемся сацыяльнымі праблемамі, а не палітычнымі. Навошта круціць фільм пра тое, аб чым усе ведаюць? Трэба звяртаць увагу на тое, што ў дзяржаве, такой як наша, дзе валадарыць сярэдневяковы кансерватызм і савецкі менталітэт, ёсць людзі, такія, як мы, як Анджэй Пачобут, прывязаныя да свайго месца, свайго дому — Беларусі. Зразумей, Лукашэнка не вечны. Гэта вораг народа. Людзі могуць жартаваць, што ўладу пасля яго пяройме Коля, але ж гэта ўсяго толькі дзіцёнак. Калі пайшла ўжо пра тое гаворка, у яго ўжо цяпер настолькі скажоная псіхіка, што няма шанцаў, каб ён падолеў усяму гэтаму. Урэшце, мы не можам шукаць віны ў Лукашэнкі. Ён даходзіць да ўлады цераз дэмакратычныя выбары. Праблема заключаецца ў грамадстве. Маладыя людзі не маюць аніякай перспектывы на дзяржаўную дапамогу. Нягледзячы на гэта, мы напэўна не хочам быць эмігрантамі. Мы будзем падарожнічаць па свеце, супрацоўнічаць з іншымі краінамі Еўропы, але так выглядае сучасны свет. І калі б нам давялося выбіраць — жыць у Беларусі, Украіне ці Расеі, мы выбралі б Беларусь. Насамрэч тут найлепш. Карупцыя знаходзіцца толькі на вышэйшых узроўнях, яна нас не датычыцца. Ва Украіне, у Расеі яна паўсюль. Інтрыгі, палітычныя сваркі адгукаюцца на кожным.*

„Пісьменнік і грэшніца” — гэта пятнаццаціхвілінны фільм, які распавядае пра пісьменніка і прастытутку. Галоўныя ролі іграюць акторы Гарадзенскага драматычнага тэатра — Марыя Мялешка і Аляксандр Калагрыў. Назва метафарычная, яна наводзіць на адну з вядомых біблейскіх прыпавесцяў пра Хрыста і пералюбніцу. Пісьменнік сімвалізуе аднаго з фарысеяў, які кідае камень у пералюбніцу.

*— Як акрэсліў аператар, у нашай фабуле белае становіцца чорным, а чорнае — белым. Прастытутка выратоўвае жыццё чалавека, які перад гэтым яе зняважыў, а пісьменнік у выніку прыбягае да прастытуткі не за тым, каб напісаць пра яе, а скарыстаць з яе паслуг.*

Прэм’ера была аб’яўлена на 30 верасня ў Гарадзенскай выставачнай зале а 16.30. Пазней фільм можна будзе паглядзець у інтэрнэце. Польскія кінаманы змогуць убачыць яго ўжо ў кастрычніку на варшаўскім фестывалі беларускага кіно „Bulbamovie”. Што мне дадаць? Мы заўзятарым за хлопцаў і жадаем ім поспехаў у будучых праектах.

***За дапамогу ў перакладзе аўтарка дзякуе Катажыне Лаўдаскай***

## Асвячэнне помніка

У Свята-Духаўскім прыходзе на Антонюку ў Беластоку 4 чэрвеня 2012 г. адбылася двайная ўрачыстасць. Апрача штогадовага прыхадскога свята Сашэсця Святога Духа ў той жа дзень урачыста быў асвячаны помнік у гонар праваслаўных жыхароў Падляшша, якія былі замардаваны або загінулі ў 1939-1956 гг. Часта выдуманай прычынай для выканання экзекуцыі было тое, што чалавек быў праваслаўнага веравызнання. Паміралі не толькі мужчыны, але жанчыны і дзеці. Паміралі ад куль, накіраваных часта супляменнікамі, якія называюць сябе хрысціянамі. Каты не вагаліся прычыняць смерць у пакутах, у зламысных падпалах паасобных сядзіб, а нават цэлых вёсак. Некаторыя назвы неселеных пунктаў увекавечаны на камені, які знаходзіцца ўнутры каплічкі-помніка. На кпіны падобны той факт, што некаторыя каты былі рэабілітаваны, а іх сем’і атрымалі высокую грашовую кампенсацыю, хаця не стала ёй для нявінных ахвяр.

З засмучэннем трэба яшчэ адзначыць факт, што адміністрацыйныя ўлады шмат гадоў адмаўлялі ў выдачы дазволу на ўзвядзенне помніка, а таксама не аказалі якой-небудзь фінансавай дапамогі (хаця такая абяцалася). А фінансавая падтрымка, часта без праблем, аказвалася „слушным” аб’ектам.

У чатырнаццацігадовым змаганні за ўзвядзенне помніка старшыня таварыства яго пабудовы Канстанцін Масальскі пратаптаў многа „сцежак” з мэтай яго рэалізацыі. Падрыхтаваў ён мемарыяльную кнігу, якая ўвекавечае амаль 5 тысяч ахвяр гэтага перыяду, што стала падставай узвядзення помніка.

Каплічка была пабудавана дзякуючы ахвярнасці паасобных людзей. Члены нашага Брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія таксама падтрымалі гэтую высакародную ідэю, арганізуючы збор ахвяраванняў і прымаючы ўдзел у працах таварыства пабудовы помніка.

Ва ўрачыстасцях 4 чэрвеня, падрыхтаваных таварыствам і ў значнай ступені настаяцелем Свята-Духаўскага прыхода а. мітратам Георгіем Барэчкам, прынялі ўдзел іерархі Царквы — архіепіскап Іакаў і епіскап Грыгорый. Здзейснілі яны чын асвячэння каплічкі-помніка. Сімпатычным з’явай падчас гэтай урачыстасці было тое, што пры чыне асвячэння і толькі ў той момант пайшоў дробны дождждык. Неба „заплакала” па нявінных ахвярах!

**Аляксей МУЛЯРЧЫК**
**старшыня беластоцкага гуртка Брацтва св. св. Кірылы і Мяфодзія**

## Ганаровая ўзнагарода

18 красавіка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе праходзіў Раённы агляд фальклорных калектываў, якія дзейнічаюць пры Польскім саюзе пенсіянераў і інвалідаў. Журы высока ацаніла беларускія гурты: „Цаглінкі” са Старога Ляўкова Нараўчанскай гміны і „Рэчаньку” з Козлікаў Заблудаўскай гміны. Гэтыя калектывы прэзентаваліся на Ваяводскім аглядзе, ды даступілі гонару прадстаўляць Падляшша на XV Агульнапольскім аглядзе артыстычнага руху сенёраў „АРС-2012” у Быдгашчы. У аглядзе, які праходзіў 13-16 верасня, выступіла амаль 1200 артыстаў. Журы высока ацаніла падляшскія гурты і прэстыжную ўзнагароду Гран-пры прызначыла „Цаглінкам” са Старога Ляўкова. Заслуга гэта мастацкага кіраўніка Мікалая Мяжэннага. Вылучэнне і ўзнагароду атрымала таксама „Рэчанька” з Козлікаў. Значыцца, жыве беларушчына! Славіцца ў краіне беларуская песня і нацыянальная культура беларускай меншасці. Гран-пры ляўкоўскаму калектыву гэта гонар і пашана жыхарам вёскі, Нараўчанскай гміне і ўсяму Падляшшу. Больш бы такіх ластавак прылятала пад нашу страху, не толькі вясною і летам, але штодзень.

Віншуем з узнагародай!

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Дзеці не глядзяць адно пад ногі!

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



— У школе кажуць пра наш клас: жывыя дзеці! Бо тут кожны мае свой характар, свае думкі. Мы не любім доўга сядзець на адным месцы... — кажуць у чацвёртым „б” класе.

У доказ сказанага голас бярэ Паўлік з другой парты. Ён з ходу гатовы ўсё пракаментаваць, даказаць. Хлапчук быў два разы ў Кудаку, таму калі распавядаем пра легенду, звязаную з гэтым месцам, ён дадаў свае ўспаміны. Паўліку запамяталася кладка, якой 800 метраў трэба ісці па-над балотам у пустэльню. Але гэта не так, што ён глядзіць адно пад ногі. Ён першы заўсёды выглядзіць на небе ключ жураўлёў.

Калі на небе ляцяць жураўлі ці гусі, людзі паціху выказваюць свае мары і пажаданні.

— Я падумаў, каб мець новую мабілку, — прызнаецца хлапчук, — і мая мара збылася.

У класе любяць восень. Тады многа гавораць пра садавіну, агародніну, пра каляровае лісце, якое любяць насіць на сваёй спіне вожыкі. Пра звяркоў многа прыгожых вершыкаў, казак, спектакляў. Эмілька Сахарэвіч іграла ў п’есе „Казка пра смелага вожыка”. Гэты звярок „з’явіўся” і ў час нашай сустрэчы, калі на дошцы мы рашалі зорчыну крыжаванку. У гэтай гульні найбольш спрыту праявілі дзяўчынкі: дзве Эмількі і Наталька.

Разам прыгадвалі стравы, якія можна зрабіць з мамай увосень. Нас найбольш зацікавіла рататуя:

— Гэта агародніна з жоўтым сырам, запяканая ў духоўцы, — паясняе Эмілька Сахарэвіч. — Найважнейшая тут цукінія. Кожны можа дадаць агародніну, якая яму падыходзіць: бульбу, каляровы перац, баклажаны, памідоры, цыбулю або грыбы...

У час, калі Эмілька расказвала пра рататую, не аднаму пацякла слінка. Добра што набліжалася пара абеду. Сёння ў школе зварылі таксама абед з гародніны: гуляш.

У кастрычніку на ўроках заўсёды гавораць пра народныя святы і абрады.

— Неўзабаве мы пазнаёмімся з Дзядамі, — адзначае настаўніца Міраслава Маркевіч, заадно выхавацелька класа. — На ўроках беларускай мовы дзеці пазнаёмяцца з многімі народнымі святамі і абрадамі: з Калядамі, Гуканнем вясны, Вялікаднем, Купаллем...

Разам з пачаткам школьнага года пачынаецца падрыхтоўка да конкурсаў. Чацвёрты „б” клас іншы яшчэ з-за адной справы. Да вясёлай кампаніі дайшлі дзеці з іншых школ, і яны цяпер ходзяць на дадатковыя ўрокі беларускай мовы. Дадатковыя заняткі ўжо далі першыя вынікі. У час нашай сустрэчы пачаткоўцы актыўна адказвалі на пытанні. У канцы нашай вясёлай і жывой сустрэчы дзеткі са сваёй выхавацелькай зрабілі памятны здымак у „Зорку”. І паабяцалі больш чытаць беларускія вершыкі, казкі і апавяданні.

**ЗОРКА**



Фота Ганны Кандрацюк

-----(загадка-задача)-----

## Як жа іх перавезці?

*Вёз адзін чалавек ваўка, казу і капусту. Воўк усё хоча казу з’есці, а каза — капусту. Ён ім не дае. Прыехаў да ракі. Трэба яму іх перавезці на другі бераг. А човен маленькі, больш як дваіх не возьме: або яму браць з сабой ваўка, або казу, або капусту. Давядзецца некалькі разоў ездзіць. Задумаўся чалавек: „Як жа мне іх перавезці, каб бяды не выйшла. З ваўком паеду — каза капусту з’есць. З капустай паеду — воўк казу з’есць. Казу навязу — а на другі раз як зрабіць?”.*

*(Адказ дашліце ў „Зорку”, найлепш на электроннай пошце, тут разыграем цікавыя ўзнагароды.)*

*Восень у парку, Паўлінка СЕМЯНЮК кл. IVa*



*Міхал СТОЦКІ*
*Новая Лука*

## Восень

*Ужо восень прыйшла,*
*Лісты з дрэваў спадаюць.*
*Дуе вецер і дажджы ідуць,*
*А дні, здаецца, хутчэй уцякаюць.*
*Надвор’я добрага ўжо няма,*
*Над домам туман кожнага дня.*
*Усе людзі ў нашай вёсцы пытаюць*
*Калі прыйдзе вясна і чакаюць.*

## Вершы Віктара Шведа

### Вернуцца да нас ключы

Янка вяртаецца са школы
Надзвычай сумны, ды маўчыць.
— Чаму такі ты невясёлы?
— Згубіў я, татачка, ключы.

— Ключы бярэч ты абавязан,
Каб нас ніхто не абакраў.
— Ды вернуцца яны тым разам,
Адрас да іх прымацаваў.

### У цягніку

У цягніку нейкі пан
Увагу звяртае быццам:
— Бачу, ваш чамадан
Зваліцца хутка з паліцы.

Уласнік яму адказаў:
— Мой чамадан, не пярэчу.
Ды ведаю, што там паклаў,
Няма ў ім зусім шкляных рэчаў.

# Конкурс пра восень (30)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які звярок можа насіць на сваёй спіне лісце?**
а) воўк,
б) вожык,
в) вужака.

**2. Які звер у беларускай казцы найбольш дурны?**
а) ліcіца,
б) вол,
в) воўк.

**3. Як па-беларуску называецца загаловак казкі „Śpiąca królewna”?**
а) „Каралева-Сплюшка”,
б) „Каралева ў сонным лесе”,
в) „Сонная Прынцэса”.

Адказы дасылайце да 30 кастрычніка 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Адказ на конкурс № 28: З восенню спалучаем колер залаты (б); у гербе Бельска выступае тур (в); аўтар верша „Верасы” — Уладзімір Гайдук (б); музычны гурт дзейнічае ў Бельску-Падляшскім (в).

Узнагароду — **майку з лагатыпам „Нівы”** — выйграла **Патрыцыя Міхальчук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Галерэя ЗОРКІ


Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Эміл ька Сахарэвіч (IV „Б” клас Комплексу школ з беларускай мовай навучання № 3 у Бельску-Падляшскім).
**2. Твой любімы прадмет:** матэматыка, беларуская і руская мовы, урокі мастацтва.
**3. У жыцці хачу стаць:** танцоркай або акторкай. Зараз я займаюся ў тэатральным гуртку ў Гарадскім доме культуры.
**4. У сяброў цаню:** файнасць.
**5. Не люблю:** як хлопцы б’юцца.
**6. Па-беларуску размаўляю:** мая мама чытае мне беларускія казкі, дапамагае пісаць вершы і апавяданні.
**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** не магу яшчэ сказаць.
**8. Падабаюцца мне колеры:** чырвоны і фіялетавы.
**9. Твае ўлюбёныя стравы:** рататуя! (пра гэтую страву чытайце на стар. 6).
**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю гуляць з малодшым брацікам Кшысем і сваім катом Лёлем.
**11. Калі дарасту, хачу жыць:** у Беластоку або ў Бельску-Падляшскім.

# Скорагаворка

*(завучыце хутка і разборліва дэкламаваць тэкст)*

**Прывучыць сароку —
Адна марока,
Сорак сарок —
Сорак марок.**

# Музыка з кайфам

## Корчак учора — Корчак сёння


Фота Войцеха Окшталя

Больш за 70 гадоў таму здарылася страшэнная трагедыя. У пачатках жніўня 1942 года ў гітлераўскім лагеры смерці загінулі дзеці. Не адны яны пацярпелі ў час трагічнай вайны, але гэтых да канца суправаджаў незвычайны чалавек. Стары Доктар ці Доктар Корчак — як называлі Януша Корчака (сапраўднае імя: Генрык Гольдшміт), варшаўскага жыда, педагога, настаўніка і філосафа што-дзённасці наймалодшага пакалення — гэта герой хвалюючага музычнага спектакля. Мюзікл «Корчак» прымеркаваны быў, між іншым, да адкрыцця новага будынка Падляшскай оперы і філармоніі. Але самае важнае, што прадстаўлена ў ім вельмі кранальная, прыгожая гісторыя пра моц людскіх пачуццяў. Так як за эмоцыямі сваіх падапечных сачыў сам Доктар, так зараз мы маем нагоду пагля-дзець на эмоцыі дзяцей і моладзі, аб’яднанай вакол Корчака. На сцэне ў оперы бачым радасць, шчасце, але і жаль, неразуменне, страх. Аднак у асноўным гэта расказ пра цуд жыцця, нават у святле вялікай трагедыі.

Мюзікл «Корчак» напісаў дуэт вялікабрытанцаў: Крыс Уільямс (музыка) ды Нік Стымсан (лібрэта). Пабывалі яны ў Польшчы ў 1990 годзе і з таго моманту гісторыя Старога Доктара запаланіла іх думкі. Нарэшце ў 1997 годзе спектакль быў гатовы.

— У мяне была свядомасць і вера, што гэты спектакль нарэшце прыедзе ў Польшчу, бо тут яго месца і функцыя, — гаварыў у час свайго візіту ў Беласток Крыс Уільямс, аўтар музыкі для спектакля.

Для ўсіх гэта была праверка не толькі ў кантэксце самога важнага рэцэнзента, кампазітара музыкі, але таксама таму, што па абодвух баках стаялі дзеці. Сотні дзетак глядзелі прэм’еру як публіка, а сотня стаяла на сцэне і чакала, што прынясе ім момант прэм’еры мюзікла. Прэм’ера аказалася вялікай падзеяй таксама таму, што папярэдзіла яе вялікая канферэнцыя для дзяцей, ладжаная Маркам Міхаляком, «міністрам па справах дзяцей» у Польшчы. Перад прэм’ерай прайшоў яшчэ адзін незвычайны момант — вылучэнне адзінай у свеце ўзнагароды, якую прызначаюць дзеці. На просьбу дзяцей Ордэн усмешкі атрымала Генрыка Кшыванос-Стрыхарская, якая ў 1980-х гадах змагалася за правы грамадзян Польшчы, а сёння змагаецца за лёс дзяцей. Хоча яна, каб усе адчувалі сябе каханымі.

**i_basovka@o2.pl**

# Польска-беларуская крыжаванка № 42

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 37:**
Пан, карта, зубр, рост, кайф, гіт, Эва, брод, крок, Алах. Лаза, но, кіно, брат, крой, сфера, крот, вол, лёгкі.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Pióro | | | | | Kot | | | |
| Jaś | | Park | Kabaret / As | | | Haft | Szafka etażerka | |
| | | Mag | Oka | | Kosa | | | |
| | | | Grzyb | | | | | |
| | Agrafka | | | | | | | |
| Sum / Agrest | | | | | | | Jak | |
| | | | | | | Jak | | |
| Niebo | | | | | Rzeka Oka | | | |

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Не пакідайце Беларусі (2)!

Гэтыя выбары былі празрыстыя аж да нябачнасці. Гэта была *шутка*. Лукашэнка выйграў выбары, паказваючы слабасць Еўрасаюза і беларускай апазіцыі ды безальтэрнатыўнасць улады, — так падвёў выбары ў беларускую Палату прадстаўнікоў (23 верасня) еўрадэпутат Марэк Мігальскі, офіс якога сарганізаваў у варшаўскай сядзібе Польскага прэсавага агенцтва ў паслявыбарчы панядзелак круглы стол. Як ужо мы пісалі тыдзень таму, дэбатавалі там аб выбарчай кампаніі і паслявыбарчых перспектывах у Беларусі, у тым ліку ў еўрапейскім кантэксце.

У час другой дыскусіі Анна Дынер, эксперт Польскага інстытута міжнародных спраў заявіла, што пасля апошніх выбараў толькі ілюзорна нічога ў Беларусі не змянілася:

— Бачны праблемы самой улады. Не ўзнікла партыя „Беларусь”, а гэта паказвае, што перад гэтымі выбарамі Лукашэнка баяўся аддаць хаця б кавалак улады. *Улада не ў змозе камунікавацца з грамадствам. Беларусам надакучыла свая дзяржава, таму што дзяржава не зможа ўжо ім дапамагчы.* Калі толькі пойдзе гаворка, што дэвальвацыі не будзе, людзі кідаюцца да абменнікаў валюты. Беларусь, аднак, гэта на няшчасце стабільная дзяржава (у параўнанні напр. да Паўночнай Афрыкі; гаворка пра голад, эміграцыю і т.п. — М. Х.).

Дзмітры Бародка, прадстаўнік Беларускага дома ў Варшаве:

— Я прыхільнік байкатавання выбараў у Беларусі, таму што ва ўмовах дыктатуры, рэпрэсій выбарчая кампанія немагчымая.

Уладзімір Кобец, былы кіраўнік выбарчага штаба кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава раздумваў над тым, ці варта памагаць Беларусі ў змаганні з эканамічным крызісам. Паінфармаваў таксама, што КДБ намаўляў яго да ўдзелу ў парламенцкіх выбарах:

— Я цяпер тут, каб у гэтых выбарах не ўдзельнічаць.

У час дыскусіі адзін з удзельнікаў сустрэчы адзначыў:

— *Не можам называць Лукашэнку прэзідэнтам, бо ж апошнія прэзідэнцкія выбары не былі прызнанымі.*

Агнешка Рамашэўская, дырэктарка тэлеканала «Белсат» звярнула ўвагу:

— Невядома, якую палітыку ЕС вядзе ў адносінах да Беларусі. Ёсць высокі гандлёвы абмен. Польшча не прапануе канцэпцыі наконт Беларусі, якую прыняла б Еўропа. *Тым часам дзелавыя групы ў Еўропе чэрпаюць з Беларусі эканамічныя карысці.* Тое, што адбываецца ўнутры палітычных партый у Беларусі мае малое значэнне. Важна, што будзе адбывацца ў грамадстве.

Уладзімір Кобец:

— *Трыбунал справядлівасці ў Гаазе павінен заняцца ўладай у Беларусі.*

Алесь Зарэмбюк, кіраўнік Беларускага дома ў Варшаве:

— Лёгка крытыкаваць беларускую апазіцыю, сядзеўшы ў Варшаве. Варта выцягваць Беларусь з расійскай зоны ўплываў. Важна, каб была яна ў еўрапейскай. Трэба задумацца, якія прылады для гэтага патрэбныя. Сярод апазіцыі выспяваюць уласныя сцэнарыі развіцця сітуацыі ў Беларусі. Можа ў 2015 г. будзе адзін, больш сур'ёзны. Ужо нават 60 працэнтаў грамадства адварочваецца ад улады, ды значная частка не далучаецца да апазіцыі.

Падчас трэцяй і апошняй панэльнай дыскусіі Катажына Пякарская, дырэктар Еўрапейскай акадэміі дыпламатыі пераконвала:

— У апошні час наступіў вельмі сур'ёзны рост экспарту з Беларусі ў ЕС. Еўрасаюз увёў санкцыі ў адносінах да 25 беларускіх фірм. Гэта замала. *Ужо ўзніклі дачныныя фірмы прадпрыемстваў, ахопленых санкцыямі, і ўжо яны гандлююць з ЕС і паказваюць, што санкцы беспасняховыя.* Літва, Латвія, Славенія — гэтыя дзяржавы блакіруюць санкцыі ў адносінах да беларускіх прадпрыемстваў. Важна, каб гэтыя дзяржавы атрымлівалі з ЕС кампенсацыю за страты ў рамках санкцый. Для гэтага, аднак, патрэбная палітычная воля.

Дадала спрэчна:

— Я лічу, што да часу вызвалення палітвязняў у Беларусі не павінна быць ані аднаго еўрасаюзнага пасла.

Наталля Радзіна, галоўная рэдактарка сайта «Хартыя'97» (у апошні час у Варшаве адкрылі яго офіс) вярнулася да матыву дакладней палітычнага:

— У Беларусі будзе горш. Будуць узрастаць рэпрэсіі. Зміцеру Дашкевічу працягнулі зняволенне на неазначаны тэрмін. На Захадзе — няма рэакцыі. Захад увогуле не будзе нічога рабіць, нафта важнейшая.

Павел Усаў, эксперт Беларускага цэнтра еўрапейскіх даследаванняў:

— Лукашэнка вельмі баіцца сацыяльных і палітычны выбухаў. *Разам са штораз горшай эканамічнай сітуацыяй, будуць узмацняцца рэпрэсіі, напрыклад, у адносінах да незадаволеных работнікаў заводаў.* Бунты рабочых, якія выйдуць на вуліцу, Лукашэнка будзе здушваць лакальна, усюды там, дзе яны будуць паяўляцца. *Не трэба спадзявацца ў Беларусі ніякай эканамічнай лібералізацыі.* Кантроль над эканомікай гарантуе яму палітычны кантроль.

Прадбачваў:

— Лукашэка будзе масава ўстараняць апазіцыю за мяжу. Напэўна зробіць гэта перад прэзідэнцкімі выбарамі ў 2015 г. Не будзе яна яму ўжо патрэбная для легітымізацыі яго ўлады на Захадзе і да мабілізавання народа. Канстытуцыя Беларусі не мае значэння. Прэзідэнт можа ўвесці надзвычайнае становішча ў выпадку небяспекі. Ужо прызначыў губернатараў-генералаў.

Андрэй Аляксандраў, прадстаўнік арганізацыі «Index on Censorship»:

— Змены ў Беларусі не прыйдуць з Варшавы, Брусэля, Вашынгтона ці Лондана, але знутры. Рэжым баіцца моцнай, з'яднанай супольнасці, якая дзейнічае з абдуманай стратэгіяй і вакол якой ёсць згода. Дыялог улады і грамадства гэта адзіная дарога перамен. Еўропа павінна зрабіць усё, каб дайшло да дыялогу.

Наталля Радзіна ўвайшла яму ў слова:

— Гэта ўтопія. Ва ўмовах дыктатуры не можа быць ніякага дыялогу.

Марыюш Машкевіч, былы пасол РП у Мінску (якому цяпер уезд у Беларусь забаронены):

— Мы страцілі як тая Еўропа, якую чакала свабодная Беларусь. Страцілі перш за ўсё інструменты ўплыву. Будаванне інфармацыйнай прасторы ў Беларусі з'яўляецца адным з найважнейшых інструментаў.

Павел Усаў:

— Ані Барозу (Жазэ Мануэль Барозу — старшыня Еўрапейскай камісіі — М. Х.), ані Эштан (Катрын Эштан — высокая прадстаўніца ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі — М. Х.) ніколі не сказалі, што Беларусь у перспектыве была б членам ЕС. Людзі ў Беларусі павінны ведаць, што яны патрэбныя ў Еўропе. *Калі ЕС не хоча змяняць цэн на візы для беларусаў, дык няхай хаця б зменіць працэдуры іх выдачы. У сваю чаргу малы памежны рух з Беларуссю можа быць уведзены аднабакова, не чакаючы, што зробіць Лукашэнка.*

Наталля Радзіна:

— У Мінску ўзнікаюць заходнія банкі, працвітае заходні бізнес. *За продаж нафтавых прадуктаў на Захад грошы ідуць на зарплаты для апарату бяспекі.* Беларусы гэта бачаць, дык як маюць ставіцца да ЕС, калі пакутуюць за ЕС, а Еўрасаюз іх прадае?

Павел Усаў:

— ЕС мае толькі дзве прылады адносна Беларусі: дыялог або санкцыі. Я за санкцыі. Дыялог не давёў да дэмакратызацыі. *Няхай ЕС сам вызначыць, ці тая цывілізацыйная прастора патрэбна Еўропе.* Без гэтага іншыя пытанні не маюць сэнсу.




Удзельнікі дыскусіі. Першы справа еўрадэпутат Марэк Мігальскі

1 ☞працяг

# Опера двойчы

Зусім у іншым клімаце, настройваючым да одуму і моцных перажыванняў, адрэкамендаваны быў прапрэм'ерны ў Польшчы „Корчак”. Гэта аповед пра Януша Корчака і яго падапечных з сірочага дому, створаны ў канвенцыі мюзікла, канвенцыі выклікаючай рознагалоссе ў кантэксце сваёй тэматыкі. Падыходзіла б тут музычная драма. Гэтае азначэнне, дарэчы, прымяніў перад прэм'ерай на сцэне сам Крыс Уільямс (лібрэта напісаў іншы брытанец — Нік Стымсан).

— Хаця гэта гісторыя пра цудоўнага чалавека, якога турбавалі розныя драмы, гэта найцудоўнае і самае важнае, што памагаў ён дзецям перажыць страшную драму ў магчыма найменшым страху. Дзякуючы гэтаму гэтая музычная драма напаўняе нас больш надзеяй чым адчаем, — сказаў перад узнцяцем занавесу.

Раўнапраўная галоўная роля — побач тытульнага героя, якога іграюць замена Тамаш Стэцюк і Дам'ян Аляксандар — належыць блізка сотні дзяцей і кожнаму з іх асобна, штодзень вучням беластоцкіх школ, у тым ліку Непублічнай пачатковай школы імя Кірылы і Мяфодзія. Гэта яны вакальна і — можа перш за ўсё — акцёрска, хаця б праз непрымушаную міміку і жэсты, трымаюць на сабе ўсю драму аповесці, якая пачынаецца ў 1939 годзе і трагічна канчаецца ў 1942 годзе. Усё, здаецца, без высілку, без непатрэбных перагібаў, проста, а прытым вакальна чыста і нявінна. Паасобныя матывы, якія, здавалася б, рвуцца, уплецены ў пастаноўку ў змяняючыеся сцэнаграфічныя прасторы: падвал, чыгуначную рампу ці ўваход у гета. Кранае секвенцыя спіхваных боцікаў з амаль пустой сцэны. Злуе цынізм і жорсткасць Ганіцеля (Пшэмыслаў Борыс / Тамаш Трач), увасабляючага ўсю нацысцкую сістэму. Хвалююць любоўныя сцэны паміж старэйшымі выхаванцамі сірочага прытулку: Голдай, Басяй, і Маркам ды Ізакам і Буляй (знакамітыя трыо і дуэты). Уражвае сцэнаграфічная задума ўзнікання гета. Аўтары спектакля не стваралі ідэалізаванага свету: ёсць дракі паміж дзетварой у прытулку і польска-яўрэйскія падзелы, якія не былі ў ім чужыя. Януш Корчак, з характэрнымі барodкай і акулярамі, не быў пазбаўлены чалавечых слабасцей. Бачым яго баздапаможнага і ўступбаванага нялёгкай любоўю да Стэфы (замена: Аніта Стэцюк і Дарота Радомская). Аднак за любы кошт стараецца абараняць дзяцей ад зла як у гета, але і ад зла, што бачыць у клубе, дзе сустракаюцца бандыты і прастытуткі, у свеце, які ніяк не падыходзіць да карэктнасці расказаў пра галакост. Раз робіць гэта расказваючы казкі, іншым разам выдумляючы іх да сну — найлепшы сродак на страх. І быццам сам сабе паўтарае пытанне з адной з песень: „Ці ўсё памятаеш, як меў ты некалькі гадоў?”.

У „Корчаку” аркестр у дванаццаць асоб пад кіраўніцтвам Тадэвуша Платка тонка ўспамагае драматургію чарговых сцэн і, здаецца, быццам бы толькі спадарожнічае, а не каментуе гісторыі, якія кіруюцца да знішчэння.

Прэм'ерныя прадстаўленні Уільямса-Скальмоўскага і Манюшкі-Скальмоўскага гледачы прынялі шматхвілиннымі апладысментамі. Пасля „Страшнага двара” выходзілі весёлыя, пасля „Корчака” — у одуме. Сярод гэтых апошніх мы прыкмецілі Ігара Лукашука, віцэ-дырэктара Дашкольна-школьнага комплексу ў Нарве, які сказаў нам тое, што, мабыць, пачулі б мы ад шмат якіх гледачоў „Корчака”:

— Калі бачыў я дзяцей на сцэне, параўноўваў іх да тых, што жывуць цяпер у бяспечны час, са светлай будучыняй. Я ўсвядоміў сабе як няшмат трэба, каб даходзіла да такіх трагедый, каб людзі перасталі быць людзьмі. Гэта ўсё не прагісторыя. Гэта адбывалася нядаўна, ледзь два пакаленні таму. Трэба клапаціцца аб тое, каб такое ніколі не наступіла.

*— Восемдзесят сёмы год мне, цяжка, пара ўжо адыходзіць з гэтага свету, — сумна задумалася бабуля Ксеня. — Амаль усё жыццё пражыла я ў гэтай вёсцы, тут нарадзілася і тут памру. Мужык мой, Вася, скончыўся ў шпіталі ў Беластоку, дзеці туды яго павезлі. Доўга там ляжаў, там правёў свае апошнія гадзіны. Выбеглі ўсе салёвыя: „Васіль вярнуўся, Васіль вярнуўся!”, а той Васіль уначы памёр. Пяты рок ад красавіка мінае, як яго няма....*



*Там дзе свет канчаецца*

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Жаночы лёс

Жыву з сынам. Быў ён у Беластоку. Там не дабыў, прыйшоў дахаты, я яму сказала: „Хадзі, будзем неяк жыць”. Пражываем на адной рэнце ўдваіх, бо ён не мае нічога. Гарэлка згубіла. Жонка адышла, пакідаючы пяцігадовага сына. Ён прыязджае сюды з унукам, значыць маім праўнукам. Я выгадавала таго хлопца, ён цяпер помніць, усё „бабцю і бабцю, бабцю еж, бабцю пі”... Памятаю, першы раз павяла я яго ў школу, зайшла, усе дзеці з бацькамі, а ён, бедны, усё дзержыцца за мяне і не адыходзіць, дзяцей не знае бо то горад. Падышла вучыцелька да яго і кажа: „Хадзі, Мірачку, хадзі, пакажу табе цацкі, пасядзім, пагаворым”. А ён усе роўна за мяне дзержыцца, не і не, ну, што ж, дзіця без бацькоў... Ён вырас, ажаніўся і файную кабету мае. Наглядзеўся на бацьку, захацеў жыць па-іншаму. Ёсць у мяне і другі сын, у Беластоку жыве, толькі забыла на якой вуліцы. Як захварэю, та прыязджае, дапамагае, забірае мяне да дактароў. Як мне тут гора, то ён раз-два паяўляецца. Але ж і той сын памагае, як зап’еццa, та зап’еццa, але як цвярозы, та ў яго ў руках усё што хочаш зробіць, што хочаш настроіць, толькі гэтая халера ўсё псуе... Ён яшчэ малады, працы не мае і не мецьме, так і без рэнты застанецца. Пабыў у Беластоку, мы з мужыком мяшканне яму купілі. Усё пайшло, на брук яго выкінулі, бо не плаціў. Пакуль грошы давала, яны сядзелі, але ж дакуль я мела гэта рабіць, яны ўжэ ж дарослыя былі адное і другое, узяла пакінула, так і пайшоў на брук. Яго жонка не піла, але штось у галаве не так было, усё ў Харошчы лячылася, і яе сястра таксама. Ці гэта будзе ўраджэнне такое ці што?

Амаль усё жыццё ў хаце правяла. Не было як нават у святыя месцы з’ездзіць. Двух коней трымала, тры каровы, падаіць іх, малако адправіць, авечак было трыццаць штук... Цяпер час ёсць, але здароўя і сілы няма. Хочацца паглядзець магілу мужыка, нядаўна пахавала яго, хочацца пабачыць хоць тую мясціну, дзе ён ляжыць, не магу. Даўно, даўно я там была... Любіла я свайго Васю, ён мне зрабіў такую, гэту... Мне пайшоў быў тады дванаццаць першы год, а яму было дваццаць. Я пагляздзела: брат ажаніўся, хата малая, цесна. Нарадзілася дзіця і калыскі нямя дзе памесціць. Думала, думала, што мне тут рабіць, рашыла паехаць на захад. Як падумала, так і зрабіла. Гэта за камунаю было. Сабраліся мы на зборным пункце ў Беластоку, скуль павезлі нас у Гіжыцка. Там мы пераначавалі і адтуды нас далей, у Вэнгажэва павезлі. У маёнтках мы там працавалі. Наш *зажондца* чыста па-руску гаварыў, ні так як мы, чыста па-руску. Ён мяне надта штосць упадабаў, усё „Ксюша і Ксюша”. Усё мы рабілі, гной траслі і выкідвалі, картофлю садзілі. Прабыла там тры месяцы, мама прыслалі пісьмо: „Прыедзь ты дахаты, бо не будзеш мяне бачыць, я ўжо зусім слабая...”. Я пайшла да *жондцы* і кажу: „Дарагі пане, пусцеце мяне дахаты, мая мама слабая”. Думаў, думаў і кажа: „Але ты вернешся, ці не?” — „Вярнуся”. — „Калі так, та пакінь у мяне свае рэчы, то я буду знаць, што ты напэўна сюды прыедзеш”. Занесла я тую валізку, паставіла і паехала дахаты. Нідзе я раней не выязджала, падумала: дзе мая хата, у каторым баку, як я туды заеду нідзе не бышы! Якасьці ў адной кабеты я распытала. Яна мне сказала: бяры білет адразу на Беласток, бо ты нязнацьме ж дзе высядаць, дзе што. Я, праўда, узяла білет і нідзе не высядала. Пабачыла, што напісана „Беласток”, тады ўжо злезла з поезда. Дальнейша дарога была мне вядомай. Прыехала я дахаты. Васіль быў закаханы мною, не хацеў адпускаць назад. Я да яго: „Я не буду цябе пільнаваць, калі мне трэба адзецца і абуцца, паеду”. Васіль быў адзіным гаспадаром у хаце, але захацеў за мною паехаць. Кінуў каня, кінуў усё і за мною туды, на захад! Казалі, яго маці плакала, мяне праклінала, што я яго забрала, але як я яго забрала, калі ён сам кінуў усё і даганіў мяне ў Кулях. Я і сама спалохалася, пабачыўшы, што ён мяне даганяе, падумала: „Божа мой, што ж я нарабіла!”. Заехалі мы туды, Васіль не ведаў у каторы бок павярнуцца. Я та ўжо ведала, куды і што. На ранку пакінула яго ў будынку і пайшла да *жондцы* прасіць, каб дзе-небудзь яго прыпісаў. Я зайшла туды, а ўжо галасно пайшло, што прыехала з хлопцам. Заходжу да таго *жондцы*, а ён кажа: „Ксюша, Ксюша, якога ж ты дзядя сабе прывезла, хіба нашы хлопцы горшыя?”. Я кажу, што ён сам за мною прыпёрся. Васю прыказала: „Я без вянца не буду з табою жыць. Як так ты ўжо зрабіў і іменна хочаш мяне, то трэба вянец якісь зрабіць”. Не знала я, дзе царкву шукаць. Там працавалі польскія, украінцы і нашы. Палякі-працаўнікі населі на мяне ісці ў касцёл. Зайшлі мы да ксяндза, а ён кажа: „Трэба катэхізм завучыць, інача я не прыму!” — „Ох, кажу, в іме Ойца і Сына і Духа Свентэго, адчапіся ад мяне, я маю сваё Отчэ Наш і Верую!”. Царкву знайшла мне ўкраінка, у Гіжыцку, яна нас туды на Пакрову завезла. Гэта быў звычайны будынак, я ўвайшла ўсярэдзіну, паглядзела, іконы нашы, панікадзіла вісіць, значыць — наша. Бацюшка тамтэйшы быў вельмі нам рады і звянчаў без граша, і на пропаведзі гаварыў як то мы сваёй веры іскалі! Ой, было, было! Бацюшка прапанаваў нават паказаць могліцы, але я ўжо не сагласілася, аб’ясняючы, што ў мяне свае могліцы, а ўміраць яшчэ не думаю. *Жондца* зрабіў нам вяселле, забіў свінчо, гарэлкі накупіў, сам усё зрабіў, добры быў чалавек. Узялі мы той шлюб, але я баялася дахаты даваць знаць пра цэлую справу. Бацька мой казаў: „Каб я дагнаў, я б вам за гэта галавы абрэзаў!”. Мае бацькі чамусь Васі не хацелі, файны хлопец, але чамусь ім не наравіўся. Пасля вяселля *жондца* даў нам кватэру, свінку, каб гадавалі, і цялушку даў. Палюбіў ён і майго Васю. Правялі мы там супольна два гады. Не знаю, як мы тут вярнуліся. Гэта было зімою, Васю на работу штось не схацелася, казаў: „Я ў хаце жывіне падаў бы і каля печы пасядзеў бы, а тут да работы трэба ісці, паеду дахаты!”. Ну та, кажу, едзь, а я не паеду. Але як не ехаць, калі ўжо шлюб узяла! Пасля шлюбу Вася да сваёй мамы паехаў, узяў кольцы і недагарэўшыя шлюбныя свечкі. Зайшоў і да мае мамы. Яны якраз былі ў хляве, церлі лён. Адчыніў Вася дзверы, тая спалохалася, паказаў ён гэтыя кольцы і свечкі і пачуў: „Каб це халера ўзяла, збаёдаў ты маю дачку!”. Неўзабаве пераехалі мы жыць у хату свякрухі. Не наравілася ёй, ліха кідала, цяжка было, цяжка. Свякруха мяне пераследавала на каждым кроку. Яна і старэйшага сына развяла. Я плакала, прасілася ў мужыка: „Адчапіся ты ад мяне, не буду я з ёю жыць, паеду ў Прусію!”. Доўга я жыла са свякрухаю ў адной хаце. Так мяне ўстрашыла, што як пяройдзе, рыпне дзвярамі, так я ўлякнуся, думаю сабе: „Ужо ідзе, агрызіна!”. Уначы, бывала, збіраюся і іду па сяле. Зайду туды, да мамы, да тата, пахаджу кругом хаты, але што ж гэта, яе дачка там у нас, што за маім братам пайшла. Не пайду, каб адчынілі мне дзверы. Пахаджу, пахаджу, і назад вяртаюся. Прыйду, не дам рады заснуць. Потым маме расказваю, а яна: „Чаму ж ты не стукнула ў акно?”. Ну як, кажу, да мамы буду стукаць, яна ж прыбяжыць да цябе, будзе гаварыць, што я шляюся тут уначы. Думала, што здурэю, не было выхаду. Як свякруха ўмярла, я адна ў хаці была і не баялася. Пагляджу, што ляжыць, думаю: не ўстанеш ты ўжо! Я тады ведала, што яна памрэ. Мне трэба было, з малым дзіцём на руках, бульбы ў агародзе накапаць на вячэру. Лета было, мухата, я давай праціраць шыбы ў дзвярах, а яна глядзела, глядзела: „Х-х-халера на це!” — захаркацела. Я пайшла, яшчэ не накапала той картофлі, а яна ўжэ ўмярла. Іду я з дзіцём і картофляй, чую, ужо дачка плача, енчыць на ўсю хату, а я думаю: „Ну, ужо табе тут капут”. Мы потым пазычкі набралі, купілі сабе пляц і пабудавалі новую хату і я ўжо на сваім, не хацела жыць на свякрушыным, яно мне было страшнае.

Помню, у мяне першае дзіця нарадзілася, то з ім мяне свякруха з хаты выкідала. Вася прывёз мяне са шпіталя, я легла, слабая, не магу рабіць. Свякруха на полі была. Да цямна не прыйшла каровам, свіням даць, падаіць. Вярнулася яна з поля, у мяне на дзвярах радзюжка была. Сарвала яна гэтую радзюжку, кінула пад парог і крычыць: „Як вазьму з гэтым бэхам, то апынешся сярод падворка!”. Мяне жаль ахапіў, што так сустракаюць беднае дзіця, якое толькі што на свет паявілася. Я як схапілася, як сарвалася мне ўсярэдзіне, енчыла я, енчыла, а да доктара далёка. Пасходзіліся бабы са сваімі зёлкамі, лекамі, а я не магла на ногі ўстаць. А тое дзіця такое худое нарадзілася, як палец, я недасыпала, недаядала, яна ж мяне так грызла. Бывала, яна грызе, а людзі пасходзяцца, слухаюць. Яна мне па-рознаму абзывала, а я на нагах не стаю, потым узяла ўпала, самлела. Тады яна спалохалася, завалакла мяне ў пасцель. Дзіця малое, мяне *пагатове* забрала ў Беласток. Прыехаў доктар, бабы ўсе ўвайшлі ў хату, пра ўсё яму расказалі. Завезлі мяне туды, абследавалі, я трыццаць дзве кілі важыла. Там усе збегаліся, каб паглядзець на мяне: цікава ім было, як выглядае кабета з такой вагай, а доктар ім тлумачыць: *Она не ест хора, тылько вымардавана.* Прыказаў даць мне дыету. Праўда, яшчэ ранютка, толькі свеціць агонь, а ўжо прынеслі мне яйка абваранае і масла, каб я лыгнула гэта ўпярод снядання. Так я памалу стала брацца на ногі. Свякруха мяне давіла. Я ўсё плакала, ні словам не магла ёй адказаць, бо качаргой трактавала. Зажыла я, зажыла, от што любоў нарабіла. Я дагаварылася з Васем: „Ты

працяг ☞ 10



9 ☞працяг

# Жаночы лёс

лягай на мацеры, а мяне хай закапаюць на сыну".

Мой першы сын — Коля — адышоў з таго свету ў дзевятнаццаць гадоў. Пайшоў з нашымі хлопцамі ў польскую вёску стадолу рабіць, яму было тады семнаццаць гадоў. Там школьнікі прычапіліся да іх, пачалі абзываць кацапамі, нашыя страпалі аднаго і пазамыкалі іх. Ён мне казаў: „Я ж нават рукі не палажыў!". Мой пабыў у вянзенні паўтара года, хаця спачатку тры гады яму прысудзілі. Мы адваката наймалі. На справе выйшаў гэты пабіты, пытаецца суддзя: *Покаж кто це побіў*. Той паказаў двух хлопцаў, прытым сказаў, што мой сын яго не біў, а толькі яны пасварыліся. Адвакат абяцаў, што Коля будзе дома. Я ж не панімалася на гэтых судах, вычыталі яны *вырок*, я думала што ён з намі дахаты вернецца, а яго на тры лет у цюрму замыкаюць! О Божа мой, а міленькія мае, ён плача сабе, а я сабе. „А татаньку, ратуй мяне, ратуй мяне!". Нідзе не быўшы дзіця, а тут у цюрму замыкаюць! Так ён уже паўтара року прамэнчыўся, спраўляўся добра, не замецілі, каб ён быў хуліганам. Аднойчы выйшлі мы сена, тут за стадолу, раскідаць, бачу хтосьці ідзе. Але ішоў гасцінцам, думаю, чаму ён стуль ідзе, пэўна сусед які. Мой мужык распазнаў у ім нашага сына. Ну добра, думаю як на нашу дзялку схіліцца, значыць сын, а як пойдзе далей, значыць не ён, а тут раз і на баразну ідзе. А ёй, я бягом туды да яго, павесілася на яго! Прывялі мы дахаты, я тут ужо есці даю, а ён: „Не, мамо, я есць не хачу". Яму ўжо жыцця не было, усё ляжа і ляжыць. Тутака вяселле ў вёсцы было, папрасілі яго за чашніка, каб развесяліць крыху, каб разарваўся. Пайшлі па вячэры на танцы, а мой захацеў павесіцца. Там яго адратавалі. Потым нас у другую вёску ў госці запрасілі, казалі абавязкова з гармоніяй прыехаць, бо ж ён добра іграў, каліcь каля яго моладзь роем, бо ж музыкант. Праўда, мы яго ўгаварылі, але ўсё роўна штось думае, яму нявесела... Вярталіся мы ўжо дахаты, а Коля нам брык з воза, уцёк. Я енчу, я бегаю, ноч, не відна куды ісці, дзе яго шукаць... А ён дайшоў да вярбы. Тады мы яшчэ яго выратавалі. Пасадзілі на воз, паехалі далей дадому. Бачу, у хату ён не ўваходзіць, чую, што штось нядобрае дзеецца. А ён нічога, ніяк. „Хадзі ў хату!" — „Не пайду." — „Чаму?" — „А я пабуду тут". Ён ужо прыгатаўляўся. Не дала я яму да ранку спакою, не адышла. Прыйшла нядзеля, перад Вялікдзень, якраз на Вербніцу. Бачу, ён на маторы надзвычай хутка ганяецца. Я яго перапыніла, кажу: „Коля, ты дурны ці што, узяўся гэтак ездзіць!". А ён забраўся і паехаў у другую вёску. Прыехаў дахаты, тут якраз сядзелі дзяўчаткі каля суседа, а ён бягом у панскі сад. І там павесіўся... Я нагатовіла вячэры, а яго няма. Кажу: „Дзеці, шукайце Колю!". Тыя дзеці туды-сюды, няма Колі. Потым вяскоўцы прыйшлі да мяне, кажуць, што ён вісіць! Я, енчучы, бягу туды, а за мною ўся вёска. Пакуль мы дайшлі, Коля яшчэ быў цёплы. Я яго абняла, але сказалі нельга здымаць, пакуль паліцыя не прыедзе. Мужык дабег і кажа: „Я не буду ўзірацца, каб маё дзіця вісела!", перарэзаў дзягу і зняў сына. Давай хаваць, а хаваць без бацюшкі трэба. Я да вышэйшага паехала прасіцца, прадставіла справу, а той кажа: „Нельзя, нельзя, ён жа дыявалу душу аддаў, не Богу". А Божа ж мой, а я лямантую, прашу! „Ну харашо, — кажа, — я дазвалю бацюшку сустрэць мерцвяца, калі вы будзеце яго несці!". Гэта, кажу, мяне не ратуе. Ну, прыехала я назад, Коля ляжыць на ўсю хату. Паехаў мужык да нашага бацюшкі. Той пашкадаваў, сагласіўся пахаваць, але толькі каб ніхто пра гэта не дазнаўся — баяўся без хлеба застацца. І праўда, бацюшка сустрэў, увёў у царкву, цэлы дрыжаўшы ад страху. Як махнуў кадзілам над труной, так усё рассыпалася! Пазбіралі мы гэтыя вуглі, столькі страху было! Усё роўна данёс яго бацюшка да самай магілы. Назаўтра папрасіла я мужыка: „Завязі мяне на магілу, не магу я тут высядзець". Вася павёз мяне туды маторам. Спатыкаюць нас бацюшка з матушкай на дарозе і кажуць: „Ксеня, калі будуць пытаць, ці вы з бацюшкам харанілі, так вы цвярдзіце, што без бацюшкі". Слава Богу, ніхто нас пра тое не пытаў, не чапаў, так і пахавалі. Казалі, як даведаўся гэты пабіты, што Коля нежывы, то ён хапіў дзягу і сам пабег вешацца, бо казаў, што Коля невінаваты. „Як ён так зрабіў та, і я зраблю сабе". Але там яго задзяржалі. Калі б не падавалі ў суд, та хлопцы падрапаліся б і ўсё, ну хай адзін другому даў бы па галаве, але чаго было гэтым старым мяшацца! Як ён на справе *ложна* сказаў, гэты сведка, ён жа братам дваюрадным быў, мацерке сёстры. Я ніколі не была на судах, мне трэба было тады ўстаць, сказаць: *Прошэ высокего сонду, яны кузыні.* То ж ён, гэты сведка, быў бы *нездзяйсцвіцельны*. Але я баялася ўстаць, сказаць, аказацца — гэта ж суд! Выходзім ужо са справы, у дзвярах я кажу гэтаму сведку: „Каб цябе Гасподзь не мінуў, каб мае слёзы на сырую зямлю не ўпалі, толькі на цябе!". А гэты хлапчак на мяне з непрыстойнымі словамі наскочыў. Я так перажывала, потым мне сказалі, што ён згарэў, а гэты пабіты выздаравеў і ажаніўся....

# http://churchby.info



Так сталася, што большасць сайтаў, якія распавядаюць пра праваслаўныя царкоўныя справы ў Беларусі, маюць выключна адну моўную версію — рускую. На першы погляд гэта зразумела — Беларуская Праваслаўная Царква належыць да Маскоўскага патрыярхату, таму і мова тая, на якой гаворыць патрыярх. Разам з тым у лоне Праваслаўнай царквы, што кіруецца з Масквы, мноства розных народаў, у тым ліку і ў Расіі.

Калісьці, на пачатку распаўсюджання хрысціянства ўсходняга абраду тагачасныя місіянеры стараліся данесці слова Хрыстовае на мове таго народа, сярод якога яны жылі. Гэта было адной з прыцягальных рыс праваслаўя, у адрозненні ад каталіцтва, дзе „мовай Бога" была незразумелая простаму люду латынь.

Праз паўтары тысячы гадоў сітуацыя змянілася. У Беларусі, на першы погляд, няма патрэбы актыўнага выкарыстання беларускай мовы ў царкоўна-грамадскіх дачыненнях — краіна амаль цалкам русіфікаваная. Разам з тым сярод вернікаў і святароў Беларусі знаходзяцца людзі, якія разумеюць, што цалкавіты адыход Праваслаўнай царквы ад беларускай мовы не будзе правільным. Таму час ад часу ў храмах можна пабачыць хоць адзінкавыя, але беларускамоўныя кнігі, таму ўзнікаюць у інтэрнэце праваслаўныя беларускамоўныя сайты.

Адзін з такіх сайтаў, які мае назву „Беларускі партал «Царква»", месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://churchby.info**. Нельга сказаць, што выглядае ён вельмі прываблівa. Падзеленая на тры часткі галоўная старонка змяшчае шэсць выйсцяў да іншых рубрык, анонсы тэм, якія падаліся найбольш важнымі ўладальнікам сайта, а таксама анонсы апошніх паведамленняў, якія былі змешчаны на партале. Сайт мае тры моўныя версіі — беларускую, рускую і англійскую.

Уверсе цэлага выяўлення месціцца выйсце да рубрыкі „Пра партал", выгляд якой цалкам адрозніваецца ад галоўнай старонкі. „Мы ставім на мэту даць як мага больш дакладнай і, галоўнае, аб'ектыўнай інфармацыі аб Хрысьціянскай Царкве ў розных яе вымярэньнях — нябесным і зямным, дагматычным і практычным, усяленскім і нацыянальным. Гэта сайт пра хрысьціянскую веру, але менавіта з таго пункта гледжаньня, што гэтая вера немагчымая без Царквы, а таму мы павінны шукаць, сьцьвярджаць і ўмацоўваць сваю веру ў Царкве, якая ёсьць Целам Хрыстовым", — так акрэсліваюць сваю мэту стваральнікі і ідэйныя натхняльнікі „Царквы".

Уладальнікі партала падкрэсліваюць, што яны — праваслаўнага веравызнання. „Сайт робіцца праваслаўнымі хрысьціянамі, якія паводле кананічнага стану знаходзяцца ў Беларускай Праваслаўнай Царкве. Як праваслаўныя, мы бачым Царкву ў Праваслаўі, а таму перш за ўсё нашу ўвагу будзе прыцягваць менавіта гэтая галіна хрысьціянства. Але нам блізкія і ўсе тыя, хто носіць імя Хрыстовае, хаця б таму, што яго носяць і захоўваюць частку гістарычнай спадчыны і досьведу хрысьціянства. Таму ў полі нашага зроку і іншыя, неправаслаўныя хрысьціяне, аб якіх таксама будзем старацца даваць аб'ектыўную і даставерную інфармацыю", — абяцаюць стваральнікі „Царквы", адной з якіх з'яўляецца рэдактар сайта Наталля Васілевіч.

Ну а наколькі „Беларускаму парталу «Царква»" ўдалося дасягнуць сваіх мэт, можна прасачыць, зайшоўшы да рубрык „Навіны", „Артыкулы", „Бібліятэка", „Інтэрв'ю", „Асобы". Усе яны насычаны цікавай інфармацыяй, якая, праўда, падаецца часцяком толькі па-руску.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

## Брэсцкая крэпасць

На тэрыторыю Брэсцкай крэпасці ўпершыню я трапіў яшчэ школьнікам. Вучнёўскія школьныя экскурсіі сюды былі найбольш распаўсюджаныя ў той час. Канкураваць з мясцовай цытадэллю ў гэтым сэнсе мог хіба толькі хатынскі мемарыял. Гераіка „вялікай айчыннай" вайны была асноўнай у ідэалагічным выхаванні таго часу. Пра гісторыю старажытнага Берасця гаварылі ці мала, ці нічога. З таго часу ў памяць урэзаліся стэла-штык, велічэзны манумент, што ўслаўляе савецкага салдата, больш сціплая кампазіцыя „Смага" і пасечаная снарадамі і кулямі Холмская брама. Згаданы манумент „Мужнасць", дарэчы, скульптар ляпіў з маскоўскага помніка паэту Маякоўскаму. Галоўны ж уваход у комплекс аформлены ў выглядзе ламанай пяціканцовай зоркі. На фотаздымках, дзе стаяць чэргі, гэтая прапускная брама нібы паглынае дзесяткі людзей у сваё чэрава.

Многа пазней стала вядома, што пад манументамі і пліткай савецкага часу хаваецца шматвяковая гісторыя старажытнага Берасця, што на тэрыторыі і побач сённяшняга комплексу быў дзесятак храмаў і кляштараў розных канфесій. Тут адбылося багата значных падзей, напрыклад падпісанне ў Белым палацы (былым базыльянскім храме) ганебнага акту Брэсцкага міру ў 1918 годзе.

А ў 1996 годзе давялося мне быць на святкаванні 400-х угодкаў царкоўнай уніі. Памятны знак у яе гонар так і не паўстаў, удзельнікі ўрачыстасці абмежаваліся тады выкладзеным на зямлі крыжам са знічак.

На месцы і вакол крэпасці перыядычна ідуць раскопкі. Адным з цэнтральных аб'ектаў з'яўляецца музей старажытнага Берасця, накрыты шкляным купалам. У мой нядаўні прыезд у горад над Бугам мне пашчасціла трапіць на тэрыторыю цытадэлі і даўняга горада ў суправаджэнні даследніцы мясцовай архітэктуры Ірыны Лаўроўскай. Спадарыня Ірына правяла мяне на комплекс зусім іншым увахоадам — праз Паўночную браму і адкрыла шмат таямніцаў старажытнага горада, якога ўжо даўно няма. Асноўныя руйнаванні Берасце зазнала пасля лістападаўскага паўстання 1830 года. Гэта быў надзвычай чорны час для ўсёй Беларусі. Пасля знішчэння шэрагу архітэктурных помнікаў стала будавацца абаронная цвердзь. Пацярпеў горад і ў Другую сусветную вайну, але значная частка старых камяніц была знішчана і ў пасляваенны час. Зараз вока і душу наведнікаў цешыць адбудаваная царква. Адноўлена яна ў адпаведнасці з гістарычнай праўдай і падаецца вельмі „жывой". За апошні час адбыліся і іншыя знешнія змены, прычым некаторыя не ў лепшы бок. Так Холмская брама (раней яна называлася Шпітальная) зазнала дзіўнае абнаўленне. Зараз яна мае нейкую „далмацінскую" афарбоўку. Удалося пашпацыраваць і за гэтай брамай. За чырвоным мурам можна ўбачыць абрысы старажытнага замчышча, занядбаныя руіны даўняга кляштара, а таксама суток Мухаўца з Заходнім Бугам і навакольныя маляўнічыя краявіды. А перад Тарэспальскай брамай плануецца аднавіць колішні мост. З'явілася і некалькі дробных помнікаў і шыльдаў, але пра іх пісаць не хочацца, бо знакі памяці ў гонар, напрыклад, энкавэдыстаў, зноў накідваюць нам, беларусам, фальшывую гісторыю, украняюць чужынскія міфы.

Брэсцкая крэпасць сёння з'яўляецца такім аб'ектам, які шануецца рознымі палітычна-грамадскімі плынямі — адны знаходзяць тут савецкі гераізм Другой сусветнай вайны, іншыя шукаюць слядоў больш старажытнага часу. Галоўнае зараз — неяк мірна спалучыць гэты парадокс і вярнуць у свядомасць страчаную спадчыну.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ




Фота Уладзіміра СІДАРУКА

# На сходзе ў Кузаве

15 верасня 2012 г. у Кузаве праходзіў справаздачна-выбарны сход гуртка Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў (ПСПіІ). У пасяджэнні ўдзельнічалі старшыня Раённага праўлення ПСПіІ Юзаф Дубковіч, член праўлення Валянціна Верамчук, войт Юры Шыкула і настаяцель мясцовага прыхода а. Рыгор Наўмовіч з матушкай. На сход прыйшло дваццаць чацвёра членаў. Па ацэнцы старшыні Дубковіча, лік быў незадавальняючы, паколькі членаў у кузаўскім гуртку ПСПіІ амаль удвая больш. Аднак колькасць прысутных на сходзе гарантавала яго правамоцнасць, каб прымаць рашэнні.

Старшыня Дубковіч пазнаёміў удзельнікаў з інструкцыяй выбараў. Пасля разглядаліся арганізацыйныя справы. Справаздачу з дзейнасці гуртка дала Вольга Раманчук, якая ўзначальвае кузаўскі гуртох другі тэрмін. Не была гэта красамоўная гаворка.

— Гуртох раней налічваў пяцьдзесят трох членаў, — заявіла старшыня гуртка. — Да нас прыпісаны члены з Рэпчычаў і некалькі чалавек з Чаромхі-Станцыі. У час майго паўнамоцтва адышло дзесяць чалавек. Памерлі. Зараз гурток налічвае сорак шэсць членаў. Усе аплаціці членскія ўзносы. На конт дзейнасці скажу такое: удзельнічаем у мерапрыемствах арганізаваных Раённым праўленнем (вясковая святліца была ў рамонце). Не стану затым займацца дэталямі. Самі найлепш ведаеце чым займаліся, ды што можам зрабіць, — завяршыла яна выступленне.

Паколькі не знайшліся адважныя на спрэчкі, голас узяў войт Юры Шыкула. Яго выступленне было кароткае і абмежаваліся да некалькіх інфармацый. Дзве тычыліся арганізаваных гмінай мерапрыемстваў, апошняя кранала праблему ўстаранення шыферу з дахаў будынкаў.

— У гміну можна падаваць заявы на ўстараненне шыферу, — інфармаваў кіраўнік самаўрада. — Дастаткова матэрыял зняць з даху і скласці на пляцоўцы. Фірма прыедзе і забярэ. Хто раней гэтае зрабіў, павінен таксама падаць заяву...

Войт больш увагі прысвяціў запланаванаму на 29 верасня Дню сеніёра, які сёлета быў спалучаны са святкаваннем 40-гадовага юбілею Раённай арганізацыі ПСПіІ.

Чарговым пунктам сходу былі выбары. Галасаванне праводзілася яўна. Старшынёю на трэці тэрмін выбралі Вольгу Раманчук. Членамі праўлення сталі Анна Дацэвіч і Уладзімір Саўчук. На Раённай канферэнцыі кузаўскі гурток прадстаўляць будуць Вольга Раманчук, Андрэй Раманчук і ніжэйпадпісаны. На гэтым завяршылася афіцыйная частка сходу. Новаабранае праўленне запрасіла ўдзельнікаў сходу і гасцей да супольнага пачастунку. Стравы былі смакавітыя, а рыхтавала іх старшыня кузаўскіх пенсіянераў Вольга Раманчук. Сустрэча праходзіла ў сардэчнай, сяброўскай атмасферы. Было шмат песень. Нават старэнькія бабулькі паспрабавалі сваіх умеласцей і напомнілі песні сваёй маладосці. Нездарма кажуць у народзе, што жыццё пачынаецца пасля шасцідзесяці. Гэта праўда!...

**Уладзімір СІДАРУК**

# А мы шкадуем лета

Скажы нам, лета, чаму нас пакідаеш. І куды ты так спяшаешся? Ці з намі тут было табе кепска? Што хацела, тое і рабіла. Грэла нас па волі сваёй. Дождж пасылала калі хацела. Праўда — не тады, калі людзі прасілі, а тады, калі касілі. Гэта нічога — усё выбачаем табе. Прайшоў сенакос і людзі ўжо пра ўсё забылі, іншымі справамі жывуць — нават і пажалі амаль усё. Толькі тыя апошнія, якія амаль ніколі не спяшаюць, яшчэ жнуць; на ўсё яны свой час маюць.

А ты, лета, ад нас уцякаеш. Мы не лаялі цябе, калі ты нам дакучала, навальніцамі неаднойчы страшыла. А мы ўсё маўчалі. Бо і што зробіш? Можна ж сказаць, што гэта Бог нам усё пасылае. А хто яго ведае? І дакладна аб гэтым ніхто з нас не знае. А калі б і крычалі, і то на ўвесь голас, нічога гэта не памагло б. На гэта была твая пара — твой час і твая воля. А колькі ўраганы шкоды нарабілі: колькі дамоў развалілі, а з колькіх дах сарвалі. Усё гэта няшчасце і гора людское, калі іх натугу і працу ўмомант тарнада ў разваліны замяніла. Даўней ніхто і не чуў, каб вяковыя дрэвы з каранямі вырывала. І калі гэтага было мала — вадой залівала. Ой, Божа мой, Божа, што на гэтым Божым свеце тварыцца.

Даўней аб гэтым ніхто і не чуў; такое штосьці толькі ў Штатах бывала. А тут — на табе, гэтае дабро і да нас завітала. Старэйшыя людзі казалі: Добра тым амерыканцам, няхай іх надалей Гасподзь так карае. Яны ж праграшылі, у Бога не вераць, жывуць як захочуць, на другіх нападаюць, заўсёды ім мала. Няхай іх Бог хаця час ад часу пакарае. Няхай ведаюць, што нехта ёсць, хто пра ўсё ведае. І бачыце: і да нас ужо даходзіць амерыканскае дабро. Гэта нам Амерыка сваю надбаўку пасылае. І дабро пашле, і ўраганы ды тарнада падкіне. Відаць, яны свае надбаўкі нам пасылаюць. Даўней чагось падобнага ніхто ў нас не чуў і не бачыў. Праўда, як сена сушылі, то вецер закруціць сенам і ўгару падарве. Тады старэйшыя казалі: Ну, вось і чортава вяселле пачалося. Але гэта быў толькі момант, зноў вярталіся ціш і спакой, сена падала на зямлю. Яго падгрaбалі і далей за працу браліся; быў гэта толькі момант. А цяпер — найлепш не думаць аб гэтым і не згадваць. А яшчэ горш усё гэта перажываць. Толькі чаго чалавек не перажыве? І колькі на сваёй дарозе ўсяго сустрэне — і дабра, і зла. Такі, пэўна, чалавечы лёс: жыві і наракай.

**Грыша МАРОЗ**

# Адгаданка

1. Іпацій, ініцыятар царкоўнай Брэсцкай уніі, (1541-1613) 2. ураган або паводка, 3. музычны клавішны інструмент, 4. сто капеек, 5. умоўны графічны знак для запісу гукаў музыкі, 6. кніжнае выданне з рэпрадукцыямі жывапісу, 7. лішак грошай, які вяртаецца пры разліку, 8. невялікі сакавіты плод кустовых і травяністых раслін, 9. буйная марская жывёла, 10. урачысты агляд войск, 11. спецыяліст па апрацоўцы медных рэчаў, 12. пласцінка з дзяленнямі, па якіх рухаецца стрэлка ў гадзінніку, 13. дзяржава, распаложаная на ўсход ад Фінскага заліва.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | | | 3 | | | | |
| 4 | | | | | | | | | 5 | | | 6 | |
| | | | 7 | 8 | | | | | | | | | |
| | 9 | | | 10 | | | | | | 11 | 12 | | |
| | | | | 14 | | | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Алмаз, дзейнасць, дына, лоб, Мележ, Поці, рак, Сумы, Цвер, школьнік.

Рашэнне: **Калі злодзей не можа больш красць, прыкідваецца сумленным**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 14.10 — 20.10

**(22.03. — 20.04.)** 13-17.10. зоркіададуць табе адвагі. З падвойнай энергіяй возьмешся за працу. Выгадна табе супрацоўнічаць з дзелавымі партнёрамі. Чакаюць цябе новыя сустрэчы і любоўныя раманы. Добры час для рэалізацыі старых планаў. Цяпер будуць вырашацца справы тваёй кар'еры; не ўпусці моманту. Асабліва ў пятніцу будзь рашучы і ініцыятыўны.

**(21.04. — 21.05.)** Знакамітая фізічная форма. На 14-18.10. заплануй найцяжэйшыя справы, добра таксама ў падарожжах і вучобе. Усе справы пойдуць табе ў карысць, аднак прыйдзецца папрасіць дапамогі збоку. У сераду чакае цябе фінансавы поспех. У пятніцу сустрэчы з вельмі прыемнымі людзьмі.

**(22.05. — 22.06.)** Паявіцца многа сяброў. Трэба будзе памагчы заняцца іхнімі дзецьмі ці звярамі. Калі ў цябе звяне хатняя кветка, гэта прадказвае ўскладненні ў сямейных справах. З некаторых планаў не ўсё табе атрымаецца, але паявяцца іншыя, вельмі карысныя прапановы. У краме не страчвай галавы, бо можаш накупіць ненатрэбшчыны.

**(23.06. — 23.07.)** Станеш перад новымі выклікамі. Хопіць табе адвагі, а нават і нахабнасці. Можаш паспрабаваць шчасця ў латарэі. За гэты час можаш сустрэць добрых апекуноў. Не пазбывайся з хаты сямейных памятак! 15.10. лёгка можаш адвучыцца ад кепскіх звычак.

**(24.07. — 23.08.)** 15-19.10. не вырывайся з неабдуманымі ідэямі, лепш выкарыстай час на планаванне. Тыдзень, асабліва другая яго частка, будзе канфліктным. Але можаш пазбегнуць многіх спрэчных момантаў і не даводзіць сітуацыі да крайнасці. У сераду прыйдзецца табе выдаць грошы. Чацвер вельмі добры для творчых людзей.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш мець новыя абавязкі, ды справішся з імі прыпяваючы. Падпісвай усе дамовы. Прыйдуць весткі здалёк. Прыемныя нечаканасці на працы, у бізнесе. Пачне расці твой капітал. Калі нават шмат не будзеш рабіць, чакаюць цябе поспехі ва ўсіх сферах тваёго жыцця.

**(24.09. — 23.10.)** 14-18.10 — ідэальны час на зарабляне грошай. Ды 15-19.10. можа прыйсці крызіс у адносінах; не крыўдзі іншых, бо і пра цябе хтось брыдка скажа. Найважнейшыя справы пераклад зі на пасля. Твае пяць хвілін — наперадзе!

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш спялейшы, ды ніхто не пабачыць на табе мінуўшага часу. Не будзеш хварэць; пастаў на прафілактыку. Не ашукаюць цябе ў сувязі з працай. Трэба будзе вырашыць справу, звязаную з блізкімі людзьмі. Не разлічвай на пустыя абяцанні калег і сяброў. У панядзелак вельмі сачы за сваімі словамі.

**(23.11. — 22.12.)** Пачуеш шмат кампліментаў. Калі доўга з кімсьці сустракаешся, можаш спадзявацца заручын. Могуць быць раскрыты твае сакрэты. Кантралюй свае паводзіны, эмоцыі і пачуцці. Маеш шмат энергіі, выкарыстай яе на трэніроўку цела. Ды 15-19.10. можаш мець кароткахвілінныя праблемы з начальнікамі, дык не падлівай вады ў агонь.

**(23.12. — 20.01.)** Варушыся ў агульным патоку, асабліва не праяўляючы ініцыятывы, займіся вырашэннем галоўнай праблемы. Абавязкова займіся сваім здароўем. Калі разбаліцца табе зуб, адразу бяжы да дантыста, бо інакш яго страціш. 20.10. выявяцца твае недахопы ў ведах і некампетэнтнасць у нейкай справе; лепш прызнайся адразу да памылкі.

**(21.01. — 19.02.)** Вельмі ўдалы творчы тыдзень для самастойных дзеянняў. 13-17.10. паверыш у сябе і глянеш з надзеяй у будучыню. Ад знаёмых даведаешся шмат цікавых рэчаў. У аўторак ідзі да лекара. У сераду звяртайся ў органы ўлады. У пятніцу лепш не едзь ліфтам, нават калі жывеш у высокім доме.

**(20.02. — 21.03.)** Чакаюць цябе розныя сюрпрызы. Можаш апынуцца ў цэнтры ўвагі. Асабліва ў панядзелак будзе прыцягнута ўвага да тваёй персоны. Будзь больш гнуткім і ідзі на кампрамісы, тады чакаць цябе будзе поспех, будзеш прота нарасхват. У аўторак лепш не афармляй банкавых спраў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Плённы жывапісец Даніэль Грамацкі

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**— Даніэль Грамацкі не ганіцца за экзатычнымі тэмамі. Ператварае рэчаіснасць праз прызму мясцовай традыцыі, фальклору, што з'яўляецца вельмі значным і адначасова абяцаючым у маладога мастака. Выйшаў ён у сваёй творчасці ад рэалізму, каб праз экспрэсію паволі, дробнымі крокамі набліжацца да абстракцыі, якую абраў за мэту, — лічыць Агнешка Ціханюк, адказная ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы за справы культурнай дзейнасці.**



Даніэль Грамацкі перад сваімі алейнымі карцінамі

— Стварае цэлыя цыклы падобных па клімаце прац, розныя ракурсы аднойтэмы. З'яўляюцца глыбокія студыі — у адным цыкле па 40 і больш прац — пакуль тэма абсалютна не вычарпаецца. Так паўтараліся яблыкі на фоне абрадавых ручнікоў, пасля прыйшоў час на акты, нацюрморты з кветкамі ў збанках на фоне кап і макатак і, апошнім часам, пейзажы — лес, вясковыя хаты, палі. Колер тут адыгрывае вялікую ролю. Яго палітра колераў насычаная, экспрэсіўная, з адважнымі спалучэннямі. Палотны атрымліваюць выразную фактуру.

30 верасня ў Гайнаўскім белмузеі адкрылася экспазіцыя «Прырода жывая і мёртвая» Даніэля Грамацкага з Гайнаўкі, зрэалізаваная ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва». Знаходзіцца на ёй многа карцін з краявідамі, перш за ўсё з Семяноўкі і наваколля, дзе жывапісец часта адпачывае з сям'ёй. Відаць на алейных працах Белавежскую пушчу, прыпушчанскія краявіды з палямі і вадой, многа драўляных хат, якія разам з навакольнай прыродай ствараюць непаўторныя краявіды, а ўсё прадстаўлена ў розныя поры года. На экспазіцыі можна таксама ўбачыць алейныя нацюрморты з кветкамі і народнымі матывамі.

— Персанальная выстаўка — вельмі важнае здарэнне ў жыцці кожнага мастака. Сённяшняя экспазіцыя гэта падсумаванне маёй працы на працягу года. Прэзентуюцца тут у галоўным падляшскія краявіды. Свае адчуванні я перадаю на карцінах праз колер і экспрэсію. Рады, што выстаўка ладзіцца ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы, дзе я адчуваю сябе як дома, і ў зале, якая вельмі падыходзіць да паказвання мастацкіх работ, — сказаў Даніэль Грамацкі. Нарадзіўся ён у 1981 годзе ў Гайнаўцы. Тут жыве і малюе. Карціны і іконы яго аўтарства прыходзілася мне бачыць на выстаўках Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, пачынаючы з 2003 года. Мастак ажно тры разы атрымліваў першыя ўзнагароды. Тады ён расказваў мне пра сваё зацікаўленне жывапісам і іконапісаннем, якое рэалізуе да сённяшняга дня, здабыўшы ў тым часе мастацкую адукацыю. Даніэль Грамацкі — выпускнік гуманітарнага і мастацкага факультэтаў Універсітэта Мар'і Кюры-Складоўскай у Любліне, Люблінскай школы мастацтва і дызайну, сябра Саюза польскіх мастакоў.

— Маладое пакаленне мастакоў мае ў нас свой голас. Зараз прэзентуем плён гадавой працы жывапісца, для якога выдаем каталог, што будзе змешчаны ў «Слоўніку беларускіх мастакоў». Даніэль Грамацкі — вельмі творчы і плённы мастак, — сказала ў час адкрыцця выстаўкі Агнешка Ціханюк.

— Эскізы сваіх прац я раблю ў пленэры. Калі пачынаю маляваць, распачынаю выконваць па некалькі прац адразу. Частку з іх канчаю, некаторыя пакідаю незакончанымі. Часта я незадаволены сваімі карцінамі з-за таго, што рука не сумела перадаць той задумы, што ўзнікла ў галаве. Малюю многа і прыблізна столькі ж прац, што сёння прэзентуюцца на выстаўцы, засталося яшчэ ў маёй майстэрні, — гаварыў Даніэль Грамацкі. — Зараз хачу зрабіць перапынак у працы і задумацца над будучыняй. Аднак планую ісці ад экспрэсіўнага рэалізму ў напрамку абстрактнага мастацтва, з яшчэ большай сілай экспрэсіі. Хочацца мне адысці ад вонкавай рэчаіснасці ў бок унутранай, каб магчы лепш паказаць свой унутраны свет.

Прысутныя на адкрыцці выстаўкі былі гайнаўскі бурмістр Анатоль Ахрыцюк, сакратар гайнаўскага магістрата Яраслаў Грыгарук і прадстаўнікі гайнаўскіх культурных і адукацыйных устаноў хвалілі працы Даніэля Грамацкага.

— Я ў захапленні, што адзін чалавек на працягу аднаго года можа столькі намаляваць так якасных алейных карцін. Мне асабліва падабаюцца краявіды і нацюрморт з кветкамі. У мяне дома ёсць дзве яго працы і калі я раніцай гляджу на ягоныя карціны, прыходзіць да мяне добры настрой, — заявіла Іаланта Грыгарук, метадыст па навучанні беларускай мовы і заадно настаўніца Гайнаўскага белліцэя.

— Карціны Даніэля вельмі каляровыя, жывыя і поўныя аптымізму, — коратка ахарактарызаваў працы мастака Аляксей Харкевіч, былы настаўнік Гайнаўскага белліцэя.

Свае мастацкія працы Даніэль Грамацкі прэзентаваў на выстаўках у Гайнаўцы, Беластоку, Любліне і ў Краславе ў Латвіі. Яго калекцыі карцін знаходзяцца ў Польшчы, Рэспубліцы Беларусь, Латвіі і Італіі.

— Творчасць Даніэля Грамацкага вельмі цікавая, вельмі свежая, з моцным каларызмам. Вельмі добра, што нашага гайнаўскага мастака цікавіць краявід. Я жадаў бы яму, каб як найдаўжэй маляваў наш краявід, ці кветкі з нашых агародчыкаў. Перад Даніэлем Грамацкім яшчэ многа працы, але калі не страціць ён свежасці экспрэсіі і адчування моцных колераў, перад ім вялікая будучыня, — сказаў вопытны гайнаўскі мастак Віктар Кабац. — З-пад рукі Даніэля вельмі хутка паўстаюць алейныя карціны, характэрныя для экспрэсіўнага рэалізму. Не ідзе ён у напрамку глыбокага аналізу краявіду і гэтым адрозніваецца ад іншых нашых жывапісцаў, якія малююць больш дэталёва.

— У нас на вёсцы не прыняліся б такія хутка намаляваныя карціны, бо нашыя вяскоўцы патрабуюць, каб усё было намалявана дакладна. Затое гараджанам гэтыя працы падабаюцца, — сказаў жывапісец са Старога Беразова Мікола Яноўскі, які менавіта вельмі дакладна, з усімі дэталямі, адлюстроўвае на сваіх алейных карцінах рэчаіснасць.

Зараз Даніэль Грамацкі працуе бібліятэкарам у Педагагічнай бібліятэцы ў Бельску-Падляшскім, якая з'яўляецца філіялам Цэнтра адукацыі настаўнікаў у Беластоку. Аднак сваю Майстэрню мастацкіх тэхнік арганізаваў ён у Гайнаўскім белмузеі, дзе вядзе заняткі па жывапісе для дзетак і дарослых.

— Я хаджу на заняткі па маляванні алейнымі фарбамі, якія Даніэль вядзе ў музеі і многаму можна ў яго навучыцца. Наш настаўнік у тым часе таксама сам малюе і я пад уражаннем, што ён за адным захадам стварае некалькі карцін і пры гэтым так хутка, — расказваў Славамір Кулік, гайнаўскі фатограф і настаўнік у школе ў Дубічах-Царкоўных.

Пісанне ікон — гэта асобнае зацікаўленне Даніэля Грамацкага, якім надалей хоча ён займацца. У 2008 годзе вёў ён таксама кансерватарскія работы пры іканастасе Прачысценскай царквы ў Бельску-Падляшскім, а ў 2010 годзе працаваў пры рэканструкцыі іканастаса Успенскай царквы ў Шчабрэшыне.

— Іконапісанне Даніэля Грамацкага гэта зусім іншы напрамак, да якога жывапісец можа вяртацца па духовых патрабаваннях, незалежна ад напрамку ў мастацтве, якім займаецца, — дадаў Віктар Кабац.



ISSN 0546-1960